№ 21 (230) 21 траўня 2001 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ЛІСТ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА

"Я не сумняюся ў тым, што В.Ганчара трымаюць у якасьці "чорта з табакеркі", каб пры неабходнасьці выставіць яго "героем-пакутнікам" і яшчэ раз ашукаць Беларусь".

**"Другі раз беларусаў не ашукаюць". Старонка 5.**

# Незалежна ад выбараў

## *Таварыства Беларускай Мовы застаецца ўплывовай арганізацыяй*

Прынамсі ў межах незалежнага беларускага грамадзтва. Такое галоўнае ўражаньне ад учорашняга зьезду ТБМ. Таварыства застаецца таксама ці ні адзінай незалежнай арганізацыяй, якую трываюць і зь якой лічацца ўлады. Наўрад ці нейкай іншаму недзяржаўнаму згуртаваньню, што лучыць беларускамоўных, расейскамоўная ўлада дазволіла б правесьці зьезд у Доме літаратара.

Зьезд ушанавалі прысутнасьцю і падцягнуты, загарэлы фарсун — генэрал Казлоўскі, няўлоўна падобны да генэрала Барака, і затурканы Чыгір, і пахмурны эмігрант Някляеў, і прэс-аташэ МЗС плэйбой Латушка. Вітаньні даслалі Домаш і Пазьняк, што перабываюць за мяжой, а таксама Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і а.Аляксандар Надсан.

Кожны кандыдат у прэзыдэнты разьлічвае на дапамогу актывістаў-моваабаронцаў. Але тэбээмаўцы, відаць, абяруць таго прэтэндэнта, які справаю засьведчыў адданасьць беларушчыне і мае найбольш шанцаў на посьпех, ды яшчэ й патаргуюцца зь ім.

Ня дзіва, што Трусава пераабралі. Ён здолеў ператварыць ТБМ у дынамічную ўплывовую арганізацыю, сьмела вярнуў яе ў палітыку, увесь час пры гэтым сцьвярджаючы, што арганізацыя застаецца панад ёю. Гэтае палітычнае пакліканьне і было тым канём, які выцягнуў ТБМ. На Таварыства зноў пачалі спадзявацца, зь ім пачалі лічыцца, а хто-ніхто — нават баяцца. Аднак, актыўны ўдзел моваабаронцаў арганізацыі у палітыцы хавае небясьпеку: мова пачынае ўспрымацца не як агульнанацыянальная, а як вузкапартыйная.

Ёсьць і іншая праблема: сёньня частка дэмакратаў лічыць мову перашкодаю на шляху да ўлады. Калі, маўляў, Лукашэнку нігілізм і разбуральніцтва вынесьлі на вяршыню, чаму б нам не скарыстацца ягонай тактыкай, толькі з добрымі намерамі?.. Пра гэта — тэма сёньняшняга нумару "НН" (старонкі 6–7).

Гэты год мінецца, аціхне тлум прэзыдэнцкай кампаніі, а грамадзтва і ТБМ застануцца з ранейшымі праблемамі. Як перайсьці ад абароны мовы да яе разьвіцьця. Як стварыць на руінах мімалётнага "Зубра" трывалую радыкальную палітычную сілу. Як пераарыентавацца ў справе прамоцыі мовы зь дзяржаўнага сэктару на недзяржаўны. На ўсе гэтыя пытаньні давядзецца шукаць адказы незалежна ад вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў.

**Барыс Тумар**




Алег Трусаў

## Навіны за тыдзень

### ЗУБРЫ ПРЫЙШЛІ

**Акцыя "Зубра" "Мы прыйшлі!" сабрала ў нядзелю ў Менску некалькі соцень удзельнікаў.** "Зубры" прадэфілявалі па ходніках ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасьці. Калёна паводзіла сябе арганізавана й дысцыплінавана, не выкрыквала лёзунгаў, не ўздымала сьцягоў. Шмат хто зь людзей на праспэкце так і не зразумеў, што адбываецца і навошта.

### ЗУБР НЕ КАРОВА

**Агенцтва *www.interfucks.com* паведамляе, што 15 зуброў выйшлі зь ляснога масіву і напалі на статак кароваў саўгасу** «Новы Двор» Гарадзенскай вобл. Ахвярамі сталіся дзьве каровы, якіх зубры літаральна падралі на кавалкі. Іх не спыніў нават "электрапастух". Кіраўніцтва саўгасу зьбіраецца патрабаваць у нацыянальнага парку "Белавежская пушча" кампэнсацыі шкоды. Аналягічны выпадак колькі год таму адбыўся на Берасьцейшчыне.

# Чарговы, сёмы — харошы і вясёлы

**Сёмы зьезд ТБМ адбыўся ўчора ў менскім Доме літаратара. У ганаровы прэзыдыюм увайшлі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Вольга Іпатава, Людміла Дзіцэвіч, Мікола Лявіцкі і першы сакратар амэрыканскай амбасады Джон Кунстатэр — за адсутнасьцю чыноўнікаў зь беларускага ўраду.**

Зьезд пачаўся з прывітальных прамоваў. Вольга Іпатава заявіла, што беларуская мова мусіць быць гаспадыняй на беларускай зямлі. Старшыня Таварыства Беларускай Школы Алесь Лозка ўручыў Нілу Гілевічу, Генадзю Бураўкіну, Алегу Трусаву ганаровыя граматы ТБШ за дасягненьні ў барацьбе за беларускую мову. Радзім Гарэцкі ў сваім прывітаньні адзначыў, што няма ў сьвеце такой краіны, дзе прэзыдэнт толькі зрэдку гаворыць па-беларуску, а ўсе астатнія яго прамовы — па-расейску. Дэлегаты пагадзіліся з такой тэзай.

Увагу аўдыторыі прыцягнуў выступ сп.Кунстатэра на нядрэннай беларускай мове. Амэрыканец заклікаў прысутных не пакідаць беларускай мовы, а разьвіваць яе надалей, і наладзіў абструкцыю беларусафобам. Асобна ён адзначыў неабходнасьць разьвіцьця клясычнага правапісу.

Адметнымі былі й вітальныя прамовы беларускіх палітыкаў. Вінцук Вячорка паабяцаў скончыць працу над клясычным беларускім правапісам, аднак толькі пасьля таго, як будзе пераможаная дыктатура ў краіне.

**Працяг на старонцы 3.**




# Урокі для апазыцыі

## *«Усебеларускім народным сходам» Лукашэнка распачаў сваю мабілізацыйную кампанію*

Сход выявіўся добра прадуманай рэклямнай акцыяй з удзелам такіх спэцыяльна запрошаных зорак, як нобэлеўскі ляўрэат родам зь Віцебску, сын чыноўніка калягіяльнай адміністрацыі Жарэс Алфёраў, газавы магнат з «Ітэры» Ігар Макараў, лідэр украінскіх камуністаў Сыманенка, бранскі губэрнатар-камуніст Лодкін, мітрапаліт Філарэт, расейскамоўная актрыса Акружная, кіраўнік Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Польшчы, пасол Сойму Ян Сычэўскі, вязень сумленьня Павал Барадзін. Праграма разьвіцьця краіны была з помпай і адзінадушна ўхваленая. БТ здымала гэтую зорную ростань на відэастужку ідэальнай якасьці.

Сход прадэманстраваў, наколькі ўкараніліся дэмакратычныя вартасьці і дзяржаўніцкія рытуалы за пяць апошніх гадоў. Сход не спрабаваў прызначыць дату выбараў. Лукашэнка падкрэсьліў немагчымасьць аднаўленьня Савецкага Саюзу.

**Працяг на старонцы 3.**

## Апытаньне "НН"

Беларускамоўная грамада, да якой належыць большасьць чытачоў "НН", застаецца падзеленай на дзьве амаль роўныя часткі: лібэралаў і фундамэнталістаў. Такі вывад можна зрабіць з чытацкіх адказаў на анкету "НН". Першыя шукаюць палітычных кампрамісаў і ўдзелу ў кааліцыях дзеля адхіленьня ад улады Лукашэнкі. Другія — ізаляцыяністы. "Ніякіх кааліцыяў нам ня трэба!" — часта адказваюць на чацьвертае пытаньне прыхільнікі Пазьняка. Яны лічаць, што галоўнае сёньня — захаваць чысьціню нацыянальнае ідэі.

**Працяг на старонцы 5.**

## З усёй краіны


НОВАЯ ГАЗЕТА СМАРГОНІ

Першае прычасьце ў Смургонях

### Да першай камуніі

**Перад летнімі вакацыямі 246 маленькіх парафіянаў касьцёлу Сьв.Міхала Арханґела ў Смургонях прынялі першую Камунію.** Амаль год яны вывучалі Біблію зь сёстрамі Люцыяй і Маргарытай. А бацькі дзяўчынак паклапаціліся пра ўрачыстыя сукенкі. Бо падзея такая здараецца раз у жыцьці.

### Грыб — атрута для егавіста

**Наеўшыся веснавых грыбоў, сям'я з чатырох чалавек (тата, мама і два малыя 5 і 8 год) трапіла ў рэанімацыю.** Бо няправільна прыгатавалі падступныя смаржкі. Дактары казалі, што бацькі — сэктанты (егавісты, ці што), мала таго, што самі вэгетарыянцы, дык яшчэ і дзяцей марылі. Адсюль і цяжкія вынікі. Выратаваць іх выратавалі, але ныркі і печані, асабліва ў малых, пашкоджаныя.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Сьвята Маці Божай Фацімскай

**У Баранавічах адбылося сьвята Фацімскай Божай Маці.** У сьвяточнай імшы бралі ўдзел каля 5000 чалавек. Ня ўсе зьмясьціліся ў касьцёле, хто-ніхто слухаў знадворку. Пасьля службы ля касьцёлу распачаўся фэст. У ятках людзі маглі набыць сабе нешта смачнае. А побач выступалі рок-гурт "Рэзэрвацыя" і бард Віктар Шалкевіч, хор польскага клюбу, творчы калектыў "Фэст" (Баранавічы). Паралельна распачаліся гульні й конкурсы для дзяцей, якімі кіравалі сёстры-манашкі. Алькагольныя напоі, нават піва, у ятках не прадавалі, аднак весялосьці ставала і бяз іх. Такога нармальнага эўрапейскага сьвята даўно ня бачылі Баранавічы. Сорамна прыгадваць 9 траўня, калі гарэлка лілася ракою, а Малады Парк захлынаўся ад сьмецьця, бруду й п'яных падлеткаў.


А.ЯН ГЛІНКА

Баранавіцкі Касьцёл Фацімскай Божай маці

### Сьвята ў Жыровічах

**20 траўня беларусы ва ўсім сьвеце адзначаюць Дзень зьяўленьня Жыровіцкага абраза Божай Маці,** які цяпер захоўваецца ва Ўсьпенскім саборы Сьвята-Ўсьпенскага мужчынскага манастыра ў Жыровічах. З даўніх часоў да цудадзейнага абраза ідуць хрысьціяне ўсіх канфэсіяў.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Навіны гаспадарскія

# Спачатку сэквэстар

За студзень-сакавік "абменьнікі" прадалі валюты на 33,2 млн. даляраў больш, чым купілі. Каб утрымаць курс рубля, Нацбанк "націснуў" на прадпрыемствы і давёў абавязковы продаж валюты дзяржаве з 17,6 да 24,8%... Таму сродкаў на рэканструкцыю Беларускага мэталюргічнага заводу і "Беларуськалію" зноў ня будзе.

Паўстае й пагроза паліўнага крызысу. Спажыўцы завінаваціліся "Белнафтахіму" каля 16 млрд. рублёў, і ён ня мае за што набываць нафту для перапрацоўкі. І крэдыту ня возьмеш, бо ці ня ўсе банкаўскія рэсурсы пайшлі на пасяўную. Давядзецца браць пазыкі ў расейскіх банках.

Міністэрства фінансаў абвясьціла, што скарачае бюджэтныя выдаткі. Сэквэстар робіцца з мэтай знайсьці грошы на падвышэньне заробкаў. Аднак мае ня той, хто эканоміць, а той, хто зарабляе. А як тут заробіш, калі з пачатку году доля стратных прадпрыемстваў павялічылася да 41,8%, і замест патрэбнага для "100 даляраў на кожнага" росту ВУП краіны на 5,5% ён узьняўся толькі на 1%?

**Сяржук Іваноўскі**

### ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ ПРАЗЬ БЕЛАРУСЬ

**З 10 чэрвеня цягнік «Санкт-Пецярбург—Калінінград», які раней ішоў праз Латвію, будзе аб'яжджаць яе праз Віцебск, Полацак і Маладэчна.** Працягласьць шляху павялічыцца на 200 км.

**Б.Т.**

# Сьвет магнатаў Пшазьдзецкіх

**У Заслаўі адчынілася гісторыка-мастацкая выстава "Заслаўе. Ілюзіі і рэаліі магнатаў Пшазьдзецкіх". Аўтары экспазыцыі, мастацтвазнаўца Тацяна Гаранская і мастак Віктар Маркавец паспрабавалі ўваскрасіць зь нябыту сьвет, што загінуў у полымі войнаў і экспрапрыяцыяў.**

Пшазьдзецкія ўладарылі ў Заслаўі ў XVIII ст. Цэнтральнай фігурай экспазыцыі стаўся Антоні Тадэвуш Пшазьдзецкі (1718—1772), які дапамог Станіславу Аўгусту Панятоўскаму зрабіцца каралём Рэчы Паспалітай, за што й атрымаў тытул графа Заслаўскага, а таксама шматлікія прывілеі. Напрыклад, яму дазвалялася ладзіць у Заслаўі, дзе было тады ня болей за 200 жыхароў, штогадовыя кірмашы, якія зьбіралі па 20 тысяч наведнікаў.

Новае становішча вымагала адпаведнага антуражу, і Пшазьдзецкі распачаў у Заслаўі маштабнае будаўніцтва. Паўстаў касьцёл Нараджэньня сьвятой Панны Марыі, які, аднак, ня стаўся фамільнай пахавальняй Пшазьдзецкіх, што разьляцеліся па сьвеце пасьля падзелу Рэчы Паспалітай. Касьцёл быў разбураны ў часе апошняй вайны. Налета мае скончыцца ягоная доўгая рэстаўрацыя.

А вось пра аднаўленьне заслаўскага палацава-паркавага комплексу, створанага італійскім дойлідам Карла Спампані, пакуль няма гаворкі. Толькі рэшткі забудовы датрывалі да нашых дзён. Цяжка нават уявіць, як выглядаў Заслаўскі палац. Нават на здымках канца XIX — пачатку XX ст. можна пабачыць толькі сьціплыя дамкі і парушаныя пуні, якія калісьці былі часткамі графскай сядзібы.

Цэнтральнае месца выставы займаюць партрэты Пшазьдзецкіх, намаляваныя Віктарам Маркаўцом: багіня сьвецкіх салёнаў Алена Радзівіл, дачка Антонія Пшазьдзецкага, што атрымала выдатную адукацыю ў маёнтку Міхала Клеафаса Агінскага; яе сын Антоні Генрык Радзівіл — аўтар опэры "Фауст"; ягоная жонка — прынцэса Люіза...

**Юлія Андрэева**

# Дарунак ад Ежы Гедройца

**Нацыянальная бібліятэка атрымала падарунак — поўную калекцыю выданьняў парыскае "Культуры", якая належала Гедройцу.**



Плён жыцьця Гедройца вярнуўся ў родны горад рэдактара "Культуры".

Галоўная вартасьць "Культуры" ў тым, што яна дапамагае знайсьці ясныя адказы на істотныя пытаньні нашага сёньняшняга жыцьця. Як змагацца з нацыянальнымі ілюзіямі, якія адно маскуюць комплекс нацыянальнай непаўнавартасьці? Як будаваць стасункі з палітычнымі апанэнтамі? Як ставіцца да Расеі? Як патлумачыць падманутым і паняволеным людзям, што яны таксама вінаватыя ў сваім гаротным лёсе? Як прымусіць іх крытычна зірнуць на сябе, зьмяніць стаўленьне да суседзяў, адмовіцца ад старых схемаў мысьленьня?

**Ю.А.**

## Спартовы тыдзень

# *Футбол у Мазыры*

**Менскія дынамаўцы, прайграўшы "Славіі" дома, ехалі ў Мазыр, каб усё ж трапіць у фінал ды здабыць Кубак Беларусі, а разам зь ім — права на ўдзел у Кубку УЭФА. Аднак згулялі ўнічыю 1:1.**

"Славія" трэці год запар у фінале. Сёлета ёй давядзецца граць з бабруйскай "Белшынай", якая адолела рэчыцкі "Ведрыч". Незалежна ад таго, хто — "Славія" ці "Белшына" — пераможа 27 траўня, бабруйчане ўжо маюць квіток у Кубак УЭФА, бо "Славія", чэмпіён краіны, будзе браць удзел у адборы да Лігі чэмпіёнаў.

2 чэрвеня беларуская зборная гуляе ў Ерэване з дружынай Сукіасяна. У новым рэйтынгу ФІФА мы засталіся на ранейшым 88-м месцы, а армянаў "панізілі" на два радкі — 95-я пазыцыя.

У Гамбургу Максім Мірны перайграў бразыльца Густава Куэртэна — першую ракетку сьвету 2000 г. А на наступны матч са швэдам Ёхансанам пораху не хапіла.

IREX-PROMEDIA

Нашыя гандбалісткі змагаюцца з галяндкамі за квіток на сьнежаньскі чэмпіянат сьвету. Першую гульню ў гасьцях беларускі прайгралі 26:32. Матч у адказ — у Гомелі ў суботу.

**Богусь Біятлянёнак**

# Грамадзянін Вялікага Княства

**Мастацкая галерэя Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту прэзэнтавала выставу графікі Анджэя Струмілы.**

На самой выставе "Маляваны дзёньнік — А4" былі прадстаўленыя скрозь ксэракопіі. Усе малюнкі аднолькавага фармату А4, суцэльна абстрактныя. Некаторыя больш падобныя да тэстаў для вымярэньня здольнасьці да прасторавага мысьленьня.

Найбольш цікаваю была лекцыя "Фрагмэнты аўтабіяграфіі", якую можна было паслухаць перад пачаткам выставы. Анджэй Струміла — "усебаковы дылетант", як ён сам сябе называе, — эрудыт, знаўца некалькіх моваў (у тым ліку і беларускай), азіяцкіх культураў, сваяк Чэслава Мілаша, вучань Уладыслава Стшэміньскага, аднаго з бацькоў усходнеэўрапейскага авангарду.

Нарадзіўся Струміла ў Вільні, куды ягоны дзед і бацька, менчукі, уцяклі ў 1920 г. ад бальшавікоў. Струміла ставіцца да Менску з сантымэнтам, аднак быў шакаваны, калі ўпершыню наведаў горад продкаў. На месцы колішніх Залатагорскіх могілак, дзе спачываюць ягоныя продкі, ён пабачыў Палац мастацтва, абкладзены "кабанчыкам".

Штогод у сядзібе Струмілы ў Мацьковай Рудзе, ля Сувалак, ладзіцца Міжнародны пленэр гранітнае скульптуры, у якім традыцыйна бяруць удзел і беларусы. Апрача інтэлектуальных дасягненьняў, прафэсар ганарыцца сельскагаспадарчымі перамогамі. У яго 44 гектары зямлі, славутая на ўсю Польшчу стайня...

На разьвітаньне Струміла падарыў Эўрапейскаму гуманітарнаму ўнівэрсытэту каштоўны кніжны збор, прысьвечаны гісторыі шляхецкіх родаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Струміла, як і Мілаш, лічыць сябе грамадзянінам ВКЛ.

**Ю.А.**

## Ня слухай!

# Сындром *"Русского радіо"*

Жыве ў памежным горадзе на захадзе краіны журналіст. Ён мае радыё, слухае навіны і музыку. У яго ёсьць у дыяпазоне *FM* пэўны выбар. Само сабой, Маскву ён ігнаруе. Масквою ён быў перакормлены за трыццаць гадоў жыцьця пры СССР-ы. Як ашалелыя, трансьлююць сябе на поўную моц літоўцы, якія паставілі побач зь мяжою магутны рэтрансьлятар. Але ў 300-тысячным горадзе іх рэальна могуць слухаць бадай 10—20 чалавек. Бо мова занадта замежная, нават да польскай ані не падобная.

Застаецца ўключаць Варшаву альбо Менск. Радыёгаласы з апошняга выклікаюць вельмі супярэчлівыя пачуцьці. А тут яшчэ *"Русское радіо"* прыехала. Толькі яго нам і не ставала.

У самарэкляме РР тлумачыла, што быццам бы шырока распаўсюдзілася ў сьвеце, а нядаўна ўмацавалася ў Латвіі. Нічога дзіўнага: сярод латвійскіх станцый — адна для «расейскамоўнага насельніцтва», цалкам апраўданая рэч. *"Русское радіо"* ня ўцяміла аднаго: што ў Беларусі ўсё радыё — расейскае. Так што пятая ці дзясятая станцыя, якая прыехала з Масквы ў Менск, будзе мець тут немалую канкурэнцыю. Не параўнаць з Латвіяй! У Беларусі ніша *"Русского радіо"* даўно занятая і перапоўненая. Зьмяншаць варта колькасьць такіх станцый, а не павялічваць, даражэнькія маскоўскія госьці.

Сярод *FM*-станцый існуе таксама «Сталіца», якая вяшчае па-беларуску. Аднак "Сталіца" — дзяржаўная станцыя, і гэтым усё сказана.

Слухач атрымлівае з радыё навіны і музыку. Навіны на «Сталіцы» — лукашэнкаўскія, музыка — у рэчышчы рэпэртуару расейскамоўных поп-станцый. «Сталіца» бясконца круціць тую самую расейскую бяздарную папсу, што і ўсе іншыя бі-эі. Хіба што прапануецца трохі больш англамоўнай музыкі і песень на розных больш рэдкіх мовах. І за гэта, як кажуць, дзякуй! Аднак, усё ж такі заклiку «Слухай сваё!» «Сталіца» не адпавядае. «Крамы» ды іншых незалежных беларускіх гуртоў не прызнае ніводная сталічная станцыя. Парадокс, але «Сталіца» не прызнае таксама і нашай папсы, якая паводле прафэсійнага ўзроўню вышэйшая за расейскую на парадак. Нашы выканаўцы выхаваныя на песьняроўска-верасоўска-сяброўскіх традыцыях. У іх ёсьць галасы і слых, чаго няма ў большасьці маскоўскіх. Нашая папса, само сабою, ляяльная, у афіцыйным рэчышчы. Нездарма яе нават крыху прапагандуе БТ. Аднак у этэры песьню на беларускай мове рашуча ігнаруюць, нават «Сталіца».

Бі-эі фанабэрліва ставяць украінскія песьні, але ні ў якім разе не беларускія! Хаця ў нас багата зусім ня горшых за таго «Відаплясава» гуртоў. Жывучы ў Менску, супрацоўнікі бі-эяў напэўна нешта ведаюць пра існаваньне беларускай музыкі. Ды ня маюць сьмеласьці ставіць. І ў такой сытуацыі *"Русское радіо"* хацела кагосьці зьдзівіць!

Для Бі-эя і краіна Беларусь дагэтуль практычна не існуе, не пачуеш пра яе амаль нічога. Вядома, «Відаплясава» варта круціць, Украіна — суседняя краіна. Аднак

# Чарговы, сёмы...



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Працяг са старонкі 1.

Сьледам за ім астралёгіяй урачыста займалася большасьць выступоўцаў, прадказваючы, што з восені мы будзем жыць пры новай уладзе. А з новай уладай акрыяе і беларуская мова.

Генэрал Казлоўскі выйшаў на трыбуну ў цывільным, досыць бадзёра адчытаў па-беларуску віншаваньне, выказаў заклапочанасьць станам беларускай мовы, скончыўшы выступ караценькім "Спасіба". "Во гэта — ад сябе", — зьедліва пракамэнтараваў галоўны рэдактар "Нашага Слова" Станіслаў Суднік, што сядзеў перад мной.

Міхаіл Чыгір сказаў, што за беларускую мову трэба змагацца. Людміла Дзіцэвіч слушна заўважыла, што дастаткова палітыку сесьці ў лукашэнкаўскую турму, як пачынае выяўляцца ягоная беларускасьць. Сяргей Папкоў, адзін зь лідэраў КХП-БНФ, зачытаў ліст ад Пазьняка. Было агучанае віншаваньне беларускай амбасады ў Вялікай Брытаніі. Факсаў ад Ганчарыка, Гайдукевіча і Крыжаноўскага не паступіла.

Бурныя авацыі суправаджалі кожны выступ, ворагаў беларушчыны шальмавалі бязьлітасна.

Кульмінацыяй сталася справаздача Алега Трусава за пэрыяд 1999—2001 г. У сваім выступе ён адзначыў, што колькасьць сяброў ТБМ вырасла з 2,5 тыс. у чэрвені 1999 г. да 9 тыс. у 2001 г. Арганізацыі ТБМ ёсьць у кожнай вобласьці і ў большасьці раёнаў, а сябры ТБМ жывуць ня толькі ў Менску, Магілёве, Горадні, але і ў Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Іркуцку, Вільні, Празе, Беластоку. У 10-мільённай Беларусі на 1 тысячу жыхароў — 1 сябар-тэбээмавец. Лічы, адна праміле.

Станіслаў Суднік запэўніў прысутных, што газэта "Наша Слова" мае агульнарэспубліканскае значэньне, і ў якасьці доказу прывёў словы Васіля Быкава: "Наша Слова" — газэта нацыі".

У спрэчках дэлегаты распавядалі пра сытуацыю на месцах, пра стан беларускай мовы і стаўленьне да яе ўлады.

Канец зьезду прайшоў будзённа. У напаўсонным парадку пераабралі кіраўніцтва ТБМ. Старшынём застаўся Алег Трусаў, першай намесьніцай — Людміла Дзіцэвіч, намесьнікамі сталі Алена Анісім і Сяргей Кручкоў. Галоўным рэдактарам "Нашага Слова" застаўся Станіслаў Суднік. Шчырае зьдзіўленьне выклікала абраньне 52 чалавек у Раду ТБМ. Ці зьмесьцяцца яны на маленькай сядзібцы на Румянцава, 13? Каб жа ня выйшла якога здарэньня!

У перапынку ў фае дэфіляваў Уладзімер Някляеў, спадзеючыся на незьлічоныя інтэрвію. Аднак, журналісты не сьпяшаліся падыходзіць да яго.

Па абедзе дэлегаты абмеркавалі Стратэгію разьвіцьця беларускай мовы ў XXI ст. і вырашылі адкласьці канчатковае вырашэньне гэтага пытаньня да наступнага зьезду ТБМ.

У апошнім нумары "Нашага Слова" зьвярнуў на сябе ўвагу артыкул "Насустрач 7-му зьезду ТБМ". У ім сьцьвярджаецца, што беларускай мове чатыры тысячы год і што яна была мовай дыпляматычных зносінаў у Эўропе ў Сярэднявеччы. З гэтым інтэлектуальным багажом і ўступаем у трэцяе тысячагодзьдзе.

**Алег Гардзіенка**



# Урокі для апазыцыі

Працяг са старонкі 1.

Кастрычніцкая плошча была аформленая гербамі гарадоў Беларусі. (Некалі ж маглі і сцэнамі Лядовага пабоішча размаляваць!) У прэзыдыюме сядзелі не сьвінаркі й пастухі, а даволі рэспэктабэльны менскі істэблішмэнт.

Лукашэнка трохі фальшывіў, нібы напярэдадні перарэпэтаваў славутыя «экспромты» і старанна прадуманыя моўныя «ляпы», за якія яго гэтак любяць простыя людзі і СМІ. (Прамова поўнілася засьцярогамі ад правядзеньня выбараў «спусьця рукі», абяцаньнямі памагчы «зь бюджэту трыма пальцамі», адкрыцьцямі, што жыды змагаліся з нацыстамі толькі «ў Беларусі да Смаленшчыны і Масквы», бо «наш народ стварыў ім умовы для гэтага», і што ў кожнага чалавека мусіць быць радзіма, «на якой жыць і паміраць натуральнай сьмерцю».) Красамоўства адэскага пашыбу глядзелася штучна.

Зь іншага боку, уразіла, наколькі Лукашэнка ведае — і гэта прыклад для апазыцыі — праблемы «звычайнага чалавека» дый не баіцца гаварыць пра іх. Чаго варты хоць бы пасаж пра бандытызм на польскіх дарогах і бясьпеку нашых магістраляў.

Лукашэнка быў стрыманы і асьцярожны ў ацэнках апазыцыі (што можна парадзіць і ягоным апанэнтам) у адпаведнасьці з парадамі паліттэхнолягаў. Па ўсім відаць, што ён наважаны змагацца перадусім за цэнтрысцкі электарат.

Затое вырвалася ў Лукашэнкі неасьцярожнае прызнаньне пра існаваньне пазабюджэтных фондаў. У іх захоўваюцца, напрыклад, сродкі, атрыманыя за продаж танкаў, што падпалі пад скарачэньне ў адпаведнасьці з дамовай аб узброеных сілах у Эўропе. Такое выкарыстаньне дзяржаўных грошай караецца згодна з крымінальным заканадаўствам.

Апазыцыі, што за 13 гадоў існаваньня не набыла нават звычайнай гукаўзмацняльнай устаноўкі й дагэтуль выступае на мітынгах праз фізрукоўскі рупар, ёсьць чаму павучыцца ў вялікага гаваруна. Посьпех правага блёку залежыць ад таго, ці хопіць у яго фантазіі, каб здабыць падтрымку Вольгі Корбут і Івана Іванкова, Алёны Сьвірыдавай і Ігара Карнелюка, Марыі Гулегінай ды Барыса Кіта. Зь перадумоваю вылучэньня адзінага кандыдата. У «партыі ўлады» ён даўно адзіны.

**Мікола**



# Бо сход, дзядуля, бо вялікі сход!

## *Антылукашэнкаўскія пратэсты: 30 затрыманых*

**З самай раніцы на плошчу перад Палацам Рэспублікі, дзе адбываўся «сход», прыходзілі й людзі, нязгодныя з палітыкай Лукашэнкі. З самай раніцы грамадзяне ў цывільным пад кіраўніцтвам міністра Навумава затрымалі два дзясяткі сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ. Уладзімеру Юху пры арышце пераламалі скабы, цяпер ён у больніцы.**

**У абед у арыштанцкі аўтобус трапілі сябры Маладога Фронту, якія, пераапрануўшыся ў гістарычных пэрсанажаў, спрабавалі адзначыць Дзень музэяў каля «Макдональдзу».**

**Увечары, нягледзячы на навальніцу і шквал, дзясяткі актывістаў Аб'яднанай Грамадзянскай і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі зноў выйшлі на праспэкт Скарыны з партрэтамі зьніклых палітыкаў. Да вечаровай акцыі далучыўся й Сямён Домаш — верагодны адзіны кандыдат патрыятычна-дэмакратычнага блёку.**

**Б.Т.**

### Пацярпелыя за Беларусь

Падчас акцыяў "Зубра" ў Менску затрымліваліся Мікіта Сасім, Зьміцер Фядорчанка, Аляксандар Барадуля, Аляксей Рудакоўскі, Павал Кісьлякоў, Зьміцер Драпачка, Аляксандар Атрошчанкаў, Алег Воўчак, Алесь Масюк. 16 траўня ў Менску былі затрыманыя Леанід Малахаў, Людміла Бажок і Леанід Садоўскі, Уладзімер Раманцоў, Анатоль Крыварот, Аляксандар Чахольскі, Сяргей Пятровіч, Сяргей Папкоў. 17 траўня ў Барысаве супрацоўнікі міліцыі затрымалі Сідорчанку Зьмітра і Падзолку Сяргея, якія распаўсюджвалі газэту "Зубр" на чыгуначным вакзале. 18 траўня ў Менску былі затрыманыя Цімох Атрошчанкаў, Яна Санько, Наталя Васілевіч, Наталя Каргіна, Алег Сагадзін, Яўген Пармякоў, Уладзімер Горса, Валеры Шчукін, Віктар Туравец, Алесь Панцялей, Ягор Куніца, Алесь Тарасаў, Алесь Нішчык, Павал Севярынец, Іван Тамашэвіч. Анатоль Лагутоў, сп.Неруш, Вольга Кацянкова, сп.Палюховіч, Лявон Сакольчык, Алег Рудзюк, Аляксей Фралоў, Уладзімер Плотнікаў, сп.Кашэўнікаў, сп.Рачыцкі, Валянціна Сучок, Уладзімер Івашкевіч, Генадзь Пляшко, Уладзімер Юхо, Мікалай Анцыповіч, Уладзімер Раманцоў — яны пратэставалі супраць лукашэнкаўскай палітыкі на плошчы перад Палацам Рэспублікі. Усе яны збольшага — сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ і Маладога Фронту. Сп.Тураўца на тым тыдні арыштоўвалі таксама ў Смургонях.

# Страйк

**У страйку прадпрымальнікаў у краіне ўзялі ўдзел некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.**

«Прысьвечаны» ён быў «усебеларускаму сходу» Лукашэнкі.

**Б.Т.**

дзе ж тады польскія песьні? Жыхары Менску нічога ня ведаюць пра надзвычай багаты музычны рынак суседзяў-палякаў. Так, польскія станцыі таксама масава круцяць англамоўную музыку, якую слухаюць ва ўсім сьвеце. Аднак другая палова музыкі — свая, польская, а не валагодзкая, як у нас.

А зараз пра двухаблічнага Януса — «Радыё Рокс—*Русское радіо*». Калі аднойчы на хвалі «Роксу» натрапіў на РР, мне стала ніякавата. Стала яшчэ больш дзіўна, калі з 10-й раніцы апошняе пачало ператварацца ў «Рокс», а з 18-й — зноў у "*Русское радіо*". І зноў замест нармальнай музыкі гучала расейская дрэнь. Дзіўна было, што ці не адныя і тыя ж супрацоўнікі да 18-ці гаварылі, што яны з «Роксу», а потым адразу, што яны — «рускарадыйныя». Гэта выклікала пачуцьцё нестабільнасьці, псыхічнае нераўнавагі, нібыта пажартаваў нехта. Толькі што ў цыліндры сядзеў трус, і вось ужо — толькі сэрпанцін, мішура. У мяне нават узьнікла адчуваньне, што маскоўскае радыё пачынае пажыраць «Радыё Рокс».

Вядома, што «Рокс» адкрыў сваім часам у Маскве беларус. Канкурэнцыя з тамтэйшымі радыёакуламі прымусіла станцыю стварыць філію ў Менску. А пазьней — цалкам пераехаць з Масквы. «Рокс» марудна пераадольвала сындром расейскага радыё, паступова ператвараючыся ў станцыю беларускую. Апошнім часам яно мяне асабіста ў значнай ступені задавальняла. Шкада было б, каб РР яе цалкам замяніла. Гэта ўсё адно, як памяняць даляр на рубель. «Рокс» можа ня меў стабільнага фінансавага становішча, чым тлумачыцца «шлюб» з РР. Апошняму таксама таньней было выкарыстаць тое, што ўжо існуе, чымся ствараць новую пляцоўку на пустым месцы. Аднак мне — слухачу — ніхто не патлумачыў, што за «цяні-талкай» зрабілі з радыёстанцыі, якую я слухаю кожны дзень.

Быў савецкі анэкдот пра грузіна, якога спыталі: колькі ён ведае нацыянальнасьцяў? Тры — адказаў ён: грузін, рускі і нярускі. На «Роксе» (я ўжо не кажу пра бі-эі) існуе рубрыка «Датчык». Дык вось, яе аўтар ведае толькі дзьве нацыянальнасьці: "рускіх" і "нярускіх" — заходнікаў. Ён расказвае беларускім слухачам пра даты і падзеі альбо амэрыканскія ды эўрапейскія, альбо расейска-цьмутараканскія. Пра які-небудзь Кызылкум або Сызрань, але ні ў якім разе — не пра Менск ці Горадню. Да апошняга часу ні слова пра Беларусь не было. Карацей, усе значныя цікавыя падзеі, усе славутыя асобы ня мелі ніякага дачыненьня да нашай краіны. І ўвогуле — пра яе ўзгадваць ня варта... Аказваецца, можна жыць на праспэкце Скарыны, а штодзённа адчуваць сябе ў Цьверы, маючы жаданьне зьезьдзіць у Маскву па кілбасу, схадзіць у маўзалей або паглядзець па «яшчыку» кіно пра Амэрыку.. Зрэшты, гэта добра вядомы сындром гома-саветыкуса, на які цярпела значная частка беларусаў. Праўда, нядаўна я нарэшце пачуў, што «ў гэты дзень 40 гадоў таму ў Менску ажаніўся са сп-няй Прусаковай славуты Освальд»! Вось так, дзякуючы падзеі ў амэрыканскай гісторыі я меў магчымасьць ўскосна пачуць, што жыву ў краіне Беларусь...

Ледзьве не забыўся. Музычная застаўка перад выпускам навінаў на "*Русском радіо*" занадта нагадвае застаўку на варшаўскім *Radio Zet*. Цікавае «супадзеньне»?

**Сяргей Максімовіч**





На адкрыцьці і падчас выставы "Milex"



IREX-PROMEDIA

# КРАІНА-СПЭКУЛЯНТ

**У Менску адбылася Міжнародная выстава ўзбраеньняў і вайсковай тэхнікі *Milex-2001.***

На выставу купляць і прадаваць вайсковую тэхніку прыехалі прадстаўнічыя дэлегацыі Расеі, Лібіі, Арабскіх Эміратаў, Паўночнай Карэі, Ірану, Сырыі. У менскім выстаўным комплексе можна было знайсьці практычна ўсё, што выпрабляецца вайсковага ў Беларусі. А таксама пазнаёміцца зь фірмовымі беларускімі прапановамі, якія датычаць ня столькі вытворчасьці новых узбраеньняў, колькі мадэрнізацыі старых. Выстава мае стаць рэгулярнай і паралельнай зь іншым прэстыжным паказам — *IDEX* у Абу-Дабі.

Сярод узораў мадэрнізаванай прадукцыі — новы прыцэл "Рубеж" кампаніі "Пеленг", які мае выкарыстоўвацца пры мадэрнізацыі БМП-2 (што вырабляюцца ў Расеі, у Кургане) і танкаў (таксама расейскай вытворчасьці), іншая оптыка БелОМА (гэтаксама прыстасаваная пад расейскія ўзбраеньні), новыя ўзоры пілятажных прыбораў барысаўскага заводу "Экран" і прадукцыі заводу колавых цягачоў зь Менску (і першы, і другі працуюць у складзе расейска-беларускіх фінансава-прамысловых групаў "Аэракасьмічнае абсталяваньне" і "Абаронныя сыстэмы"). Сярод зусім новых распрацовак — танк-разьведчык "Сталкер-2Т" пры вытворчасьці якога выкарыстоўваюцца тэхналёгіі кшталту тых, што для амэрыканскага самалёта "Стэлз" (танк выпрабляе прыватнае прадпрыемства "Мінатор-сэрвіс"), а таксама перасоўныя пункты кіраваньня войскамі аўтарства аб'яднаньня "Агат". Узялі ўдзел у выставе і аб'яднаньне "Інтэграл", "Амкадор" і МАЗ.

Беларускі вайскова-прамысловы комплекс, аслаблены крахам савецкай імпэрыі і колішніх рынкаў збыту, ачуняў. Прадпрыемствы знайшлі іншых спажыўцоў, менш патрабавальных, або іншыя спосабы збыту, часта ў абход міжнародных нормаў ці на рынках краінаў, адрынутых міжнароднай супольнасьцю, а таксама карумпаваных кліентаў. Апошняе выявілася на прыкладзе пэруанскага і ўгандыйскага скандалаў. Прычым відавочна, што гэтыя апэрацыі не былі адзінымі. Не адзін фухіморы сярод карумпаваных дыктатараў трэцяга сьвету.

Інтарэсы беларускіх прадпрыемстваў цесна спляліся з расейскімі. Гаворка ідзе ня толькі пра вытворцаў, што аднавілі старыя і стварылі новыя тэхналягічныя ланцужкі. Найперш — пра гандляроў-пасярэднікаў.

Уявім сабе, што Расея ня можа прадаць танкі Марока, бо рызыкуе страціць важны для сябе альжырскі рынак (альжырцы фактычна ваююць з мараканцамі ў Заходняй Сахары). Тады тыя самыя танкі, мадэрнізаваныя ў Барысаве, прадаюцца ў Афрыку празь беларускую паўдзяржаўную (а фактычна, прыватна-лукашэнкаўска-шэйманаўскую) фірму. Рэжым сакрэтнасьці, што пануе ў Беларусі, дапамагае да апошняга захаваць гэта ў таямніцы ня толькі для Альжыру, але й для канкуруючых расейскіх канторaў і тых расейскіх спэцслужбаў, якія гэтымі кампаніямі-канкурэнтамі апякуюцца (чытай: фінансуюцца).

Лукашэнка ўсе сем гадоў быў выразьнікам інтарэсаў (фактычна — стаўленікам) ня столькі нават вайскова-прамысловага комплексу, прадстаўленага на апошняй выставе, хоць і яго таксама, колькі гэтых міжнародных спэкулянтаў. Яны зрабілі зь Беларусі дзяржаву-пасярэдніка і дзяржаву-ізгоя. Лукашэнка ўсе гады свайго кіраваньня старанна гуляў на карысьць гэтага ВПК, падладжваў пад ягоныя патрэбы палітыку "інтэграцыі з Расеяй" і пад яго выбіраў для краіны замежных партнэраў Беларусі. Падтрымка "вытворцаў сьмерці" і спэкулянтаў ёю — зарука самаўпэўненасьці "партыі ўлады" перад выбарамі. Драма Беларусі ў тым, што гэтых людзей звычайна не спыніе нішто — на крыві пабудаваны сам іхны бізнэс. Выклік часу для беларусаў — разарваць гэтыя ланцужкі, што намёртва прывязваюць нас да Расеі.

**Барыс Тумар**

# Разьбіўся беларускі самалёт

**15 траўня на поўначы Ірану, за 250 км ад Тэгерану, разьбіўся пасажырскі самалёт Як-40, у якім знаходзіўся міністар транспарту гэтай краіны Р.Дадман і 7 дэпутатаў Мэджлісу. Самалёт быў набыты ў Беларусі.**

У Іране абвешчаная жалоба. Афіцыйная прычына аварыі — дрэнное надвор'е, але справа, найвераготней, у тэхнічным стане самалёта.

Ня ведалі, пэўна, іранцы, калі куплялі тэхніку, што тры гады таму ў паветры над Шры-Ланкай пры невядомых дагэтуль абставінах зьнік самалёт беларускае авіякампаніі з гомельскім экіпажам. Аднак іранская прэса пакуль не спрабуе ў чым-небудзь разабрацца і друкуе адно здымкі з пахаваньня і месца аварыі. Так што беларусы могуць працягваць свой бізнэс.

**Н.Г.**



### Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў

# Немцы клічуць імігрантаў, а чэхі — гоняць

**Нямецкі ўрад зьбіраецца лібэралізаваць іміграцыйнае заканадаўства краіны.** Рыхтуецца адпаведны закон. Да гэтых зьменаў падштурхоўвае брак высокакваліфікаваных працаўнікоў і нізкі ўзровень нараджальнасьці ў Нямеччыне. Да рэформаў змушае і плянаванае пашырэньне Эўразьвязу. Неўзабаве, праўдападобна, Нямеччына атрымае іміграцыйнае заканадаўства, заснаванае на сыстэме квотаў, абумоўленых канкрэтным становішчам у тым ці іншым сэктары рынку працы. Дасюньня асноўную масу імігрантаў у Нямеччыне складалі нізкакваліфікаваныя туркі і югаславы. Цяпер патрэбныя адмысловцы. І хаця ў Нямеччыне мільёны беспрацоўных, а 9% насельніцтва ўжо цяпер складаюць іншаземцы, урад Шродэра гатовы запрашаць новых замежнікаў. Адзінай умовай будзе, відаць, веданьне нямецкай мовы.

**Чэхія таксама мяняе закон аб наданьні прытулку.** Гаворка ідзе пра скарачэньне тэрміну разгляду заяваў і спыненьне злоўжываньня гэтай працэдурай. Да гэтага чэскую ўладу штурхае нечуваны наплыў "палітычных уцекачоў" з усходу, найперш з Украіны. Разьвілася ўжо цэлая індустрыя. Безьліч фірмаў і прыватных кансультантаў за памяркоўную плату дапамагаюць знайсьці дзіркі ў чэскіх законах і правільна афармiць дакумэнты, каб скарыстаць зь "перасьледу на бацькаўшчыне".

Людзі асабліва ахвотна бягуць у Чэхію, бо ў гэтай краіне падчас разгляду справы аб наданьні прытулку яны маюць права працаваць. І нават калі ў прытулку адмовяць, дык галоўная мэта — падзарабіць — на гэты час ужо звычайна дасягнутая.

Новы законапраект прадугледжвае варыянты, пры якіх просьбіту будуць адмаўляць адразу. Першае чытаньне ў парлямэнце законапраект ужо прайшоў.

**У Баўгарыі віруе передвыбарная кампанія.** Асноўных сілаў — тры: правацэнтрысцкі хаўрус, які цяпер пры ўладзе, сацыялістычная апазыцыя і "трэцяя сіла" Сімяона II. Манархістаў падтрымлівае больш за трэціну выбаршчыкаў. Сацыялісты і дэмакраты пакуль маюць удвая меншы рэйтынг.

**Сяргей Рак**

Працяг са старонкі 1.

Няважна тады, хто выйграе прэзыдэнцкія выбары і які працэнт галасоў зьбярэ кандыдат з іміджам "незалежніка" й "дэмакрата".

Першыя тыдні апытаньня наперадзе ішоў Сямён Домаш. Аднак супольная дэклярацыя, падпісаная пяцьцю кандыдатамі, сталася шокам для чытачоў "НН". Многія чакалі рашучых, радыкальных крокаў, а тут — палітычны гандаль. Ці нельга было абысьціся безь яго? — пытаюцца чытачы. Адзін наўпрост запісаў у лёзунгі: "Не дамо кандыдатам пяцёркі здаць незалежнасьць!" Другі залямантаваў у камэнтарах на палёх анкеты: "Домаш+Вячорка=саюз з Расеяй". Відавочны перабор...

Шкада, што да былых паплечнікаў па партыі частка чытачоў ставіцца больш варожа, чым да ідэйных апанэнтаў. Гэта адбываецца таму, што беларускамоўныя заганныя ў своеасаблівую рэзэрвацыю, у якой свой свайго грызе без надзеі радыкальна зьмяніць сытуацыю ў краіне, вонках гета.

Пасьля заявы "пяцёркі" рэзка пайшла ўгару колькасьць галасоў за Зянона — палітыка, які не мяняе сваёй пазыцыі і не ўтварае гандаль. Адыграла ролю, відаць, і жорсткая партыйная дысцыпліна ў шэрагах кансэрватараў (хоць колькасьць галасоў, пададзеных за Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю БНФ трохі меншая — яе горай ведаюць).

Ёсьць сярод чытачоў і лукашэнкаўцы. "Астатнія палітыкі яшчэ горшыя", — пэсымістычна камэнтуе адзін зь іх на палёх анкеты. А другі падтрымлівае дэвіз "Беларусь для беларусаў". Дэвіз, які ўпэўнена выйшаў на першае вынікова месца.

# Апытаньне "НН"

**1) За каго б Вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?**

Зянон Пазьняк **71 (37)**
Сямён Домаш **52 (33)**
Вінцук Вячорка **13 (7)**
Аляксандар Дабравольскі **4 (3)**
Міхаіл Чыгір **4 (2)**
Аляксандар Лукашэнка **3 (2)**
Станіслаў Багданкевіч **2 (2)**
Ні за кога **2 (0)**
Юры Хадыка **2 (1)**

**2) Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога Вы прагаласавалі б?**

"Беларусь – для беларусаў!" **29 (11)**
"Беларусь – у Эўропу!" **13 (10)**
"Незалежнасьць і дэмакратыя" **7 (2)**
"Дэмакратыя, Эўропа, незалежнасьць" **6 (3)**
"Прэч маскоўскіх акупантаў!" **5 (2)**
"За вольную Беларусь!" **4 (3)**
"Незалежная Беларусь" **4 (3)**
"Нармальны прэзыдэнт" **3 (2)**

Пад дэвізам нумар адзін, які нядаўна рэанімаваў Зянон, ахвотна падпісваюцца прыхільнікі розных кандыдатаў.

Астатнія дэвізы, як агульнавядомыя, кшталту "Радзіма і Свабода!", так і прыстасаваныя да найбольш папулярных кандыдатаў, кшталту "Вядома ж, Домаш" ці "Хочаш жыць не абы-як, галасуй, каб быў Пазьняк", сабралі адзінкава галасы.

Мы падлічылі, колькі разоў згадваюцца ў апытаньні тыя ці іншыя словы, разуменьні, карані словаў. Найчасьцей, як выявілася, чытачы зьвяртаюцца да словаў Беларусь, беларускі, беларусы — разам аж 85 разоў. Людзям хочацца, каб гэтае слова, нібы замова, глядзела з усіх перадвыбарных плякатаў, з усіх сьценаў. Словы з гнязда "незалежнасьць" — тое, над чым увесь час вісіць пагроза, пра што балюць сэрца кожнаму, — сустракаюцца 39 разоў. "Эўропа", якая расчаравала няясным Вікам, — 24, "дабрабыт" і "дэмакратыя" — па 20. Пра астатнія згадваюць радзей.

свабода, воля **18**
антырасейскія **13**
перамены, рэформы, альтэрнатыва **13**
адраджэньне **8**
закон, законнасьць **5**
нацыя **5**
дом **4**
парадак **4**
антылукашэнкаўскія **3**
Бог, вера **3**
веліч **3**
добрасуседзтва **3**
рынкавая эканоміка **3**
годнасьць **2**
Зянон **2**
Сямён **2**
адказнасьць **1**
дзяржава **1**
нармальны прэзыдэнт **1**
"Наша Ніва" **1**
нэўтралітэт **1**
перамога **1**
салідарнасьць **1**
самаахвярнасьць **1**
справядлівасьць **1**
сумленнасьць **1**
цывілізаванасьць **1**

**3) За якую партыю Вы прагаласавалі б?**

Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя БНФ (Пазьняка) **61**
Партыя БНФ (Вячоркі) **49**
Радыкальныя групоўкі **15**
Аб'яднаная Грамадзянская Партыя **11**
Ні за якую **7**

Нечакана многа чытачоў не давярае традыцыйным партыям, аддаючы перавагу невялікім, часта падпольным утварэньням. За іх выказаўся кожны дзясяты чытач газэты, што ўзяў удзел у апытаньні. Найбольш дакладна адлюстраваліся думкі гэтай катэгорыі чытачом, у анкеце, дасланай зь Вільні: "Я за кааліцыю "Краю", "Белага легіёну" і БПС". Або чытач зь Менску: "Сэрцам — за "Край", розумам — за БНФ Вячоркі".

Сапраўды — во сіла магла б паўстаць! Крайне правая, рашучая, працаздольная! І трывала ўгрунтаваная на беларушчыне — у адрозьненьне ад сёньняшняга "Зубра", якога, дарэчы, ніводзін чытач не згадаў. Ня зьвыклі яшчэ.

Чытачы "НН" у большасьці сваёй адмоўна ставяцца да расколу БНФ, не заўважаючы, якая прорва падзяляе нацыянал-лібэралаў і нацыянал-фундамэнталістаў. У тузіне анкетаў запісы — "за БНФ, адзіны, нерасколаты", "за БНФ, які зноў аб'яднаецца", "за БНФ — за любы з двух" і г.д. З чытачы гатовыя адначасова прагаласаваць і за Вячоркаў БНФ, і за АГП. Чытачы "НН", каб маглі, дык даўно аб'ядналі б і правых, і цэнтрыстаў.

Апытаньне працягваецца!

---

## Апытаньне "НН"

**За каго Вы прагаласавалі б на прэзыдэнцкіх выбарах?**

________________________________________

**Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога Вы прагаласавалі б?**

________________________________________

**За якую партыю Вы прагаласавалі б на парлямэнцкіх выбарах?**

________________________________________

**Калі б зараз стварылася новая аб'яднаная кааліцыя апазыцыі, як яна, па-Вашаму, мусіць называцца?**

________________________________________

Выражце гэты бюлетэнь і дашлеце ў рэдакцыю "НН":
220050 Менск а/с 537 "Апытаньне "НН".
E-mail: nn@irex.minsk.by

---



---

**Пазыцыя Зянона**



# Другі раз беларусаў не ашукаюць

**Зянон Пазьняк даслаў у Беларусь з Варшавы ліст з ацэнкамі палітычнай сытуацыі ў краіне і разгортваньня прэзыдэнцкае кампаніі. Зянон у прыватнасьці піша:**

"У Беларусі стварыліся дзьве залежныя ад Масквы групы прэтэндэнтаў на пасаду прэзыдэнта, якія супернічаюць між сабою, чакаючы, перш за ўсё, як ацэніць іх Крэмль.

Адна група — гэта Лукашэнка з сваёй камандай. Другая ("апазыцыйная") група — гэта пяць падабраных прадстаўнікоў колішняй савецкай намэнклятуры". І дадае: "Не хапае ў гэтай групе яшчэ аднойдзьвюх асобаў, але яны могуць зьявіцца". "Апазыцыйнае ўтварэньне" зь пяцёх намэнклятурных прэтэндэнтаў *ня ёсьць альтэрнатывай Лукашэнку*, — уважае Зянон. — І Лукашэнка, і "пяцёрка" спадзяюцца на Маскву і гатовыя праводзіць маскоўскую палітыку "інтэграцыі" (то бок настуловай анэксіі Беларусі ў Расею). Яны ўжо неаднаразова прылюдна засьведчылі гэта.

Аднак мы бачым, што "група зь пяцёх" выстаўляецца якраз у якасьці нібыта "апазыцыі" і "альтэрнатывы" Лукашэнку. Гэткім чынам Масква, ствараючы ў Беларусі сваю альтэрнатыву свайму ж Лукашэнку, агітуе беларусаў выбіраць паміж дзьвюма прамаскоўскімі групамі: камандай Лукашэнкі (дзе прэтэндэнт — Лукашэнка) і намэнклятурнай "пяцёркай" (дзе прэтэндэнта выявяць пазьней).

Для Расеі гэта *беспройгрышны варыянт* у Беларусі. Акрамя таго, Масква атрымлівае свабодную магчымасьць манэўраў, на каго канчаткова паставіць.

У гэтым палітыканстве (ці, як цяпер называюць, "тэхналёгіі") супольна бяруць удзел расейскія палітыкі і кіраўнік менскай Місіі АБСЭ нямецкі дыплямат Ганс-Георг Вік.

Яны ўжо выпрацавалі тактыку збору подпісаў адразу за пяцёх "апазыцыянэраў" без пазначэньня на падпісных лістах прозьвішча канкрэтнага кандыдата, за якога будуць аддаваць свае подпісы выбаршчыкі.

Напрыканцы таемны дырыжор аформіць усе подпісы на аднаго кандыдата. (Гэтым "адным", дарэчы, можа стацца ўжо шосты ці сёмы спаборнік, апэратыўна прызначаны кандыдатам у апошні момант.)

*Беларусы мусяць быць уважлівымі і не падпісваць ананімных падпісных лістоў (гэта значыць — без пазначэньня прозьвішча таго, за каго ідзе збор), каб іхнай даверлівасьцю ў чарговы раз не скарысталіся авантурысты"*, — рэкамэндуе Зянон.

"Сёньня Масква ставіць на Лукашэнку, — канстатуе ён. — Ён ім патрэбны ў любой форме (легітымны ці нелегітымны), каб дапамагчы расейскаму капіталу правесьці прыватызацыю і захоп нацыянальнай маёмасьці Беларусі, увесьці ў Беларусі расейскія грошы і скончыць такім чынам з намі як з дзяржавай і народам.

Калі Масква паставіць на Лукашэнку, яму падбяруць "альтэрнатыўную" падстаўную фігуру зь "пяцёркі" (ці з "шасьцёркі: як атрымаецца).

Калі ж Масква ўбачыць, што лепш Лукашэнку зьмяніць (гэтак было з Кебічам у 1994 г.), яму будзе супрацьпастаўлены іншы чалавек (кшталту Л.Сініцына, У.Мацкевіча ды іншых кагэбоўцаў). Зручнай кандыдатурай для Масквы быў бы Віктар Ганчар. (Я ўжо пісаў пра гэтых "чарцей з табакеркі": Чыгіра, Віньнікаву, Пуціна, Лукашэнку ды інш. — адзін ка гэбоўскі мэтад.)

Цяпер пра Ганчара. У 1999 г. В.Ганчар праваліў прафінансаваную Масквой "апэрацыю" па разбурэньні БНФ і палітычным зьнішчэньні ягонага кіраўніка — т.зв. "альтэрнатыўныя выбары" прэзыдэнта. Праз нейкі час Ганчар зьнік пры вельмі падазроных абставінах, і зь Беларусі выштурхнулі Сымона Шарэцкага, якога пасьлядоўна стараюцца дыскрэдытаваць, каб яго ніхто і ня згадваў.

Маё меркаваньне такое: калі б на арэну выбараў выпусьцілі В.Ганчара, то ў створаных абставінах гэта быў бы *найгоршы варыянт для Беларусі.* Залежнасьць В.Ганчара ад Масквы была б непараўнальнай нават з залежнасьцю ад яе А.Лукашэнкі.

Я не сумняюся ў тым, што В.Ганчара трымаюць у якасьці "чорта з табакеркі", каб пры неабходнасьці выставіць яго "героемпакутнікам" і яшчэ раз ашукаць Беларусь. Аднак такое магчыма толькі пры пэўных палітычных абставінах на выбарах.

Беларусы ні на сэкунду не павінны забывацца, што ідзе змаганьне за Беларусь паміж сіламі расейскага каляніялізму (у сфэру якіх уваходзіць рэжым Лукашэнкі) і актыўнымі нацыянальнымі сіламі беларускай незалежнасьці і свабоды. У гэтым сутнасьць палітычнага канфлікту ў Беларусі".

Зянон падкрэслівае: "Альтэрнатывай расейскай палітыцы зьнішчэньня Беларусі ёсьць толькі тая беларуская сіла, якая змагаецца канкрэтна супраць такой палітыкі".

Ён піша: "Людзі, што змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі за ўладу, але падтрымліваюць каляніяльную "інтэграцыйную" палітыку Масквы, не зьўляюцца на справе змагарамі з рэжымам, а толькі спаборнікамі за дзяржаўную пасаду прэзыдэнта.

Калі яны захопяць уладу, нічога ня зьменіцца да лепшага, а толькі згоршае, бо тады ўлада стане легітымнай, прызнанай сьветам, і маскоўская апэрацыя па захопе Беларусі завершыцца расейскім забраньнем беларускай маёмасьці і поўным зьнішчэньнем нашае дзяржавы, а затым — хуткім вынішчэньнем беларусаў як нацыі.

Самае брыдкае і самае амаральнае ў гэтай сытуацыі тое, што расейскія палітычныя калянізатары дзейнічаюць заадно з заходнімі лібэраламі (кшталту Ганса Віка), якім ня церпіцца любымі сродкамі (а на практыцы за кошт нашых нацыянальных інтарэсаў) зачыніць "беларускае пытаньне". Масква прафэсійна карыстаецца гэтым іхным нецярпеньнем і прагматызмам у сваіх інтарэсах".

Зянон у сваім лісьце вельмі нэгатыўна ацэньвае аб'яднаную апазыцыю. "Зь беларускім народам яны размаўляюць па-расейску, называюць яго "дурным" ды "халуйскім", — зазначае ён. І робіць выснову: "Відавочна, што ніякага даверу і ніякага аўтарытэту ў беларусаў гэтакая аб'яднаная з прамаскоўскай намэнклятурай і схільная да карупцыі "апазыцыя" ня мае і ніякай падтрымкі мець ня будзе. І тут ужо беларусы не памыляюцца".

**Б.Т.**

# МОВА ЯК АХВЯРА ПАЛІТЫКІ

## Матывацыі самагубцы

Сяргей Паўлоўскі

Заўважная ў Менску тэндэнцыя апошняга часу — апазыцыйныя акцыі па-расейску. Газэты, улёткі, налепкі, надпісы на платах... Там, дзе раней гаспадарыла беларушчына, цяпер нейк натужна і вінавата, быццам сябе саромеючыся, праяўляецца мова Пушкіна. Зьява ўсё больш прыкметная і адчувальная не ў кантэксьце палітыкі, а ў кантэксьце этыкі і эстэтыкі, нават літаратуры. Я спрабую ўявіць сябе на месцы менскага падпольшчыка, які ноччу фарбаю выводзіць на сьцяне рытарычнае пытаньне па-расейску: *«Где Гончар?»* Здымак гэтага графіці надрукавала ўся дэмакратычная прэса. І вось мае пачуцьці — чаго ў іх болей? Страху перад мянтамі, якія запратораць на пяць сутак у разьмеркавальнік, ці тае вусьцішы, якую адчувае хворы, калі перастае слухацца рука, ці таго азарту грэшніка, што спакусіўся на нешта недазволенае і сьвятое? Далібог, гэты клубок пачуцьцяў варты пяра Дастаеўскага — мне жыва бачыцца такі фрагмэнт у ягоным рамане «Бесы». Дазволю сабе меркаваньне, што на глебе сёньняшняга нашага грамадзкага жыцьця мусіла б нараджацца менавіта такая літаратура.

> *Мова — не катэгорыя палітычнае тактыкі. Яе тэрмін не вымяраецца месяцам і годам*

Першай ахвярай сёлетніх перадвыбарных жарсьцяў становіцца беларуская мова.

Гісторыя праблемы адносна непрацяглая і ўся адбылася на нашых вачох. З пачаткам *перастройкі* беларуская дэмакратыя выйшла на сьвет з напаўпадпольных, маладзёвых і культурніцкіх беларускіх суполак. Як тады казалі — зь нефармалаў. Менавіта мова стала першым апазнавальным атрыбутам дэмакратыі. Яна, мова, дарэчы, і цяпер — адназначны палітычны лякмус. На мове гавораць змагары за Беларусь. На мове гаворыць апазыцыя. Некалі яны былі неаддзельныя. Аднак сытуацыя пачала мяняцца.

За гэтыя 10—15 гадоў зьмянілася пакаленьне, над дэмакратамі фатальна навіс знак бясплённасьці іхных высілкаў. Вулічныя змаганьні, улёткі ды налепкі — усё міналася, а нейкага якаснага зруху ў грамадзтве так і не наставала. Тады ўзьнікла пытаньне — а можа плёну няма таму, што дэмакратыя гаворыць з народам «на розных мовах»?

Хто хутчэй, хто даўжэй, але — абруселі. Аднак вынікі мінулых гадоў паказалі, што і апошняя ахвяра плёну не дае. Не растуць наклады абруселых газэт, дый графіці на платах, шчыра кажучы, не выклікаюць даверу. Быццам гэта не мясцовая арганізацыя «Зубр», а даўнія сябры беларускай дэмакратыі, маскоўскія антыфашысты, пасьпяшаліся на дапамогу. Бо хто б гэта ў нас скандаваў *«независимость»*?

Натуральна, мэханізм моўных працэсаў нашмат складанейшы, чым простая зьмена знакаў. Як паказалі вынікі апошняга перапісу, беларусы не гавораць на мове Лермантава і Пушкіна. Паводле вобразнага выразу Адама Глёбуса, гаворачы па-расейску, у душы яны гавораць па-беларуску.

Верагодна, існуе і простая формула гэткага моўнага канфлікту. Мова гаворкі і мова пісьма — гэта дзьве зусім розныя мовы. Гэта вельмі добра ведаюць супрацоўнікі беларускіх газэт, якія працуюць з рэдакцыйнай поштай.

Цяпер беларуская мова выглядае апошняй ахвярай беларускай дэмакратыі. Дакладней, пазбаўленьне ад беларушчыны здаецца большасьці беларускіх апазыцыянэраў апошняй надзеяй на перамогу. Я ўжываю гэткія словы, бо надта часта цяпер чую іх у менскіх палітызаваных асяродках. Там усе жывуць да часу ікс, да прэзыдэнцкіх выбараў, і нават не варожаць пра тое, што будзе пасьля. У такім кантэксьце адмаўленьне ад беларушчыны нагадвае мне паводзіны самагубцы. Бо кожнаму зразумела, што пасьля выбараў якраз беларушчына, беларуская мова і застанецца. І пасьля выбараў, і пасьля апазыцыі.

Мова — гэта не катэгорыя палітычнае тактыкі. Яе тэрмін не вымяраецца месяцам і годам. Яна — прадстаўніца сьвету вечнага, нашмат мудрэйшага за самага мудрага сярод нас, жывых, і яна, як прынцып, пры любых тваіх праліках і хібах, пры любых зьменах вонкавае сытуацыі, заўсёды вынесе, выцягне, выратуе цябе — ня сёньня, дык заўтра. Адзінае, чаго яна патрабуе — гэта вернасьці сабе. Беларуская дэмакратыя безь беларускай мовы можа праіснаваць да часу ікс, калі ці пан ці прапаў. Дэмакратыя з мовай мае шанцы на доўгае жыцьцё і перамогу. Але ня мае шанцу прапасьці.

Некалі Ўладзімер Дубоўка любіў паўтараць такую фразу: «Нам няма чаго губляць, акрамя расейскай мовы». Пасьля гэтая фраза фігуравала ў ягонай крымінальнай справе як злачынства, за якое ён на доўгія гады быў высланы ў сібірскія каменяломні. Ягоная фраза зразумелая і сёньня. Сэнс яе не прапаў. Што да палітычных працэсаў, якія адбываюцца ў нашым грамадзтве, дык тут іншы прынцып: нам няма чаго губляць, апроч беларушчыны. Лёгіку тых дэмакратаў, якія выракліся беларускай мовы, мне цяжка зразумець. Чалавеку, што зьбіраецца жыць, ніколі да канца не зразумець матывацыі самагубцы.






УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## ЗЫЧЛІВАЯ АБЫЯКАВАСЬЦЬ

### *Русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Беларусі*

Прыходзіць пару тыдняў таму ў «Нашу Ніву» электронны ліст зь менскага прадстаўніцтва буйное амэрыканскае фундацыі. Цытую:

*«Главному редактору газеты «Народная нива» Сергею Дубовцу. Приглашаем Вас принять участие в семинаре, посвященном вопросам... О своем опыте будут рассказывать...»* Ну, і гэтак далей.

Ня ведаю, што ў гэтым запрашэньні больш абсурднае: ці тое, што ягоная аўтарка ня ведае, як называецца адно з хіба што трох дзясяткаў незалежных выданьняў на ўсю краіну (хоць, перш чым паступіць у ПТВ, ці дзе там вучацца сакратаркі для гэткіх фундацый, мусіла вытрымаць іспыты за курс беларускае гісторыі і літаратуры, у якім гаворыцца пра першую беларускую газэту); ці тое, што супрацоўніца Фонду, абавязак якога — апекавацца незалежнай прэсай, ня ведае, хто ягоны галоўны рэдактар (а мусіла б, відаць, і дні нараджэньня гэтых рэдактароў памятаць); ці тое, што дасылае ў беларускамоўнае выданьне запрашэньні выключна па-расейску. Ну так, палітычная карэктнасьць відавочна прыдуманая для афраамэрыканцаў і інвалідаў, але ж не для гэтых калхозьнікаў-беларусаў!

Не сумняюся, што й сэмінар быў арганізаваны па-расейску. Нават гэтак, магчыма: лектары з адной з былых савецкіх рэспублік чыталі даклады па-ангельску, а перакладчык фундацыі перадаваў гэта па-расейску. Дзіва што я не хаджу на такія сэмінары. Нацыянальная гордасьць ды проста пачуцьцё здаровага сэнсу не дазваляе.

У рамках праграмы выданьня перакладаў з францускай, цынічна названай «Багдановіч», францускае пасольства выпусьціла дзьве брашуркі Дэрыды і Вэйна па-беларуску і ўжо з дваццаць розных выданьняў па-расейску. Традыцыя пайшла яшчэ ад першага аташэ па культуры францускае амбасады мэсье Талстоя, нашчадка ягамосьці графа Лява Мікалаевіча, які наўпрост — як і належыць французу расейскага паходжаньня — адмаўляў існаваньне беларускай мовы й нацыі. Ну, дык жа бачылі вочкі, каго прызначалі!..

Ды што казаць, калі нават Польскі інстытут працуе ў Менску, лічы — па-расейску. Відаць гэта па праграмках ягоных імпрэзаў.

Прыкрасьці, прыкрасьці, прыкрасьці... Татальная русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Беларусі павялічвае пачуцьцё ізаляцыі. Міжволі думаеш: а мо насамрэч у беларусаў няма сапраўдных саюзьнікаў у сьвеце?

Амэрыканскае і польскае пасольствы — адзіныя, дзе ў першае дзесяцігодзьдзе беларускай незалежнасьці дыпляматы, прынамсі некаторыя зь іх, адчувалі сваім абавязкам вывучаць беларускую мову. І гэта было такім прыкладам для беларускае эліты.


IREX-PROMEDIA

Бэрнар Фасье і Ганс-Георг Вік

Ад эўрапейцаў беларускамоўныя ўжо шмат не чакаюць, але, калі й на прыёме ў амэрыканскай амбасадзе сутыкаешся ўсё з той жа мовай «міжнацыянальных стасункаў» з вуснаў амэрыканскіх дыпляматаў, перакладчыкаў, беларускіх супрацоўнікаў, дык тут ужо проста ня ведаеш, куды падзецца. Не, думаеш, ня можа быць. Буш, Паўэл, Козак і Кунстатэр проста нічога ня ведаюць, гэта чыноўнікі ім "мяшаюць", не даюць, сабатуюць... І сьмех і грэх.

Падобная русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Менску дае карт-блянш нашым тутэйшым дыскрымінатарам.

Чаму ж супрацоўнікі многіх прадстаўніцтваў замежных фундацыяў, якія мусяць займацца прамоцыяй дэмакратыі ў Беларусі, не зважаюць на базавыя нацыянальныя і моўныя правы прынамсі 37% насельніцтва краіны? Чаму яны не пільнуюцца, каб справы іхных кантораў вяліся на дзьвюх мовах? (Хоць маглі б і толькі па-беларуску — беларуская дэмакратыя ад гэтага толькі ўмацавалася б.) Які, папраўдзе, давер можна заваяваць, зьвяртаючыся да абарыгенаў на мове каланізатараў?

Нядаўна натыкнуўся ў Інтэрнэце, а пасьля прачытаў і ў кіеўскай «Крытыцы» адозву ўкраінскай інтэлігенцыі да прэзыдэнта, прэм'ер-міністра, Вярхоўнае Рады ды Вярхоўнага Суду Ўкраіны з заклікам забясьпечыць мірнае і дэмакратычнае рашэньне палітычнага і маральнага крызысу, што апанаваў краіну. Гэты тэкст сьціпла называецца «Зваротам навукоўцаў і прафэсіяналаў». Вядомыя людзі выказваюць сваю пазыцыю і засьцерагаюць. Адозва падпісаная сотнямі вядомых людзей — украінскага паходжаньня і ўкраінцаў. Уразіла тое, колькі сярод украінцаў вучоных, уплывовых прафэсіяналаў. Прафэсары Гарвардзкага, Вашынгтонскага, Ратгерскага, Альбэрцкага, Калюмбійскага ўнівэрсытэтаў, супрацоўнікі і кіраўнікі дзясяткаў уплывовых дасьледчых і палітычных цэнтраў... І я падумаў: калі б такі зварот падпісвала беларуская інтэлігенцыя, хто пад ім мог бы падпісацца? Ня выйшлі зь беларускае эміграцыі прафэсары, ня выйшлі губэрнатары, ня выйшлі сэнатары... Ня выйшлі тыя, да каго сьвет прыслухоўваецца. Таму й не заўважаюць беларусаў. А ўкраінцаў заўважаюць. І вы ня знойдзеце ў Кіеве заходняга прадстаўніцтва, у якім вялі б справы па-расейску ці па-расейску зьвярталіся да журналіста ўкраінскамоўнае газэты.

Цяпер толькі ў Варшаве, кажуць, вучыцца 250 студэнтаў-уцекачоў зь Беларусі. На што яны навучацца, няясна пакуль. Аднак толькі інтэлектуальная сіла можа расплюшчыць зычліва-абыякаваму Захаду вочы на Беларусь. Інтэлектуальная сіла, якую трэба песьціць гадамі выхаваньня, штогадовымі інвэстыцыямі незалежнага беларускага грамадзтва і эміграцыі і культам веды і культуры.

**Барыс Тумар**

# Тэрыторыя беспэрспэктыўнасьці

Зьміцер Бартосік

*«Уважаемые белорусы. Мы, ваши старшие русские братья, такие же граждане Белоруссии, как и вы сами, от всей своей братской души поздравляем вас с итогами последнего референдума, где вы, в большинстве своем, проявили природную мудрость и немалое мужество, изъявив желание окончательно дорасти до великой русской культуры, придав языку Пушкина и Толстого статус государственного».*

Прыкладна такі тэкст зьбіраўся адзін мой сябар раздрукаваць і парасклейваць па сталіцы. Ідэя нарадзілася пасьля рэфэрэндуму 1995-га году, які адбыўся якраз шэсьць гадоў таму. Як нясьцерпнае жаданьне пасьля бойкі яшчэ раз махануць кулаком. Махануць наастатак, каб надоўга запомнілася. Каб у тых, хто прачытае ўлётку, крыху праясьнілася ў галаве, што гэта такое — плявацца у сваё.

Задума засталася нязьдзейсьненаю. Аднак я згадваю пра яе кожнага разу, калі на вочы трапляюцца дыхтоўна зробленыя налепкі, што заклікаюць *«сказать диктатору нет»*. Сказаць, вядома, карціць. Прычым ня толькі дыктатару, але й тым змагарам.

Шмат чаго можна было спрагназаваць у 1995-м, але толькі ня тое, што змаганьне за дэмакратычную будучыню праз шэсьць гадоў будзе весьціся амаль выключна парасейску — каб быць зразумелым ня толькі сваёй аўдыторыі, але і спонсарам, і расейскім назіральнікам. Тады як ніколі выразна было відаць мяжу між тым, што можна рабіць, а чаго — ні ў якім разе. Моўны чыньнік у тым падзеле выглядаў на асноўны. Бо супраць наданьня дадатковых паўнамоцтваў Лукашэнку прагаласавалі той самы мільён беларусаў, што й за адзіную дзяржаўную мову.




...Згадваю адзін эпізод са свайго пачатковага беларускамоўнага жыцьця. Гаспадыня кватэры, дзе я здымаў пакой, вэтэранка вайны й працы, неяк сказала мне: «Гатовая паспорыць, што кагда ты ўпярвые ўслышал беларускую мову, дык яна табе не панравілася. Яна далжна была паказацца цібе грубай». Сама яна, колішняя вясковая дзяўчына, лічыла сябе расейскамоўнаю мянчанкай.

Ня ведаю, ці перапанаў я несьвядомую сямідзесяцігадовую старую ў відавочных рэчах. Аднак, што тое самае неўзабаве прыйдзецца даказваць маладым, прыгожым, пісьменным людзям, якія даўно й спрытна "займаюцца дэмакратыяй", ніяк не чакаў.

Нядаўна на праспэкце стрэў аднаго даўно знаёмага маладзёнаактывіста, які ўручыў мне чарговую ўлётку за *«наше будущее»*. На маё нямое пытаньне ён адказаў, што, маўляў, не сустракаў яшчэ ніколі ў сваім жыцьці чалавека, які б прасякнуўся беларушчынай, прачытаўшы беларускамоўную ўлётку. Да беларушчыны, маўляў, прыходзяць толькі праз культурныя акцыі. А таму трэба заваёўваць некрануту цаліну — расейскамоўную грамаду.

Пагадзіцца зь ім не магу, бо ня бачыў яшчэ ў Беларусі расейскамоўнай грамады. І ніколі не прыму за сваю тую мову, на якой гавораць менская вуліца, менскія FM-станцыі, "вэртыкальны" істэблішмэнт. Выключэньне тут складаюць газэты. Наша незалежная прэса, якая сапраўды гаворыць з чытачом выключна па-расейску. Нібы з тамбоўцам.

З адвечным Купалавым пытаньнем "Чаму вам дзіка яго мова, якой азваўся беларус?" я прайшоўся па рэдакцыях дэмакратычных газэтаў. Завітаў у масавы тыднёвік *"Свободные новости"*, ілюстраваны часопіс "Кур'ер" і газэту *"Отдыхай"*.

Вяртаючыся дадому пасьля гутарак, заўважыў у пад'езьдзе каля ліфту сьвежую зуброўскую налепку. *"Территория, свободная от лукашизма"*. Ня край, не краіна, не дзяржава. *"Территория"*. Вольная можа нават ня столькі ад лукашызму, колькі ад нормаў і прынцыпаў. І ад пэрспэктывы рэальных пераменаў.

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Экспарт піва ў Нямеччыну

Менск. Раніца. Першы прамень сонца працiснуўся між хмарачосаў і ўпаў на бронзавы помнік Быкаву. На пустым пэроне менскага мэтро рэхам аддалося: "Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца, наступная станцыя — плянц Каліноўскага". Так пачынаўся новы дзень Беларусі...

У Сарбоне адкрыўся беларускі факультэт. У менскім Лінгвістычным унівэрсытэце пачынаюць вывучаць новыя курсы: бірманскую культуру, мовы суахілі і кечуа. Апошні міліцыянт у вёсцы разумее па-ангельску і трымаецца закону, а на покліч "Жыве Беларусь!" з усьмешкай адказвае: "Жыве вечна!" У Гомельскім вавводзтве пасьля беларусаў на другім месцы па колькасьці — японцы. У Брагінскім павеце яны вынайшлі новы від кветак — фудзі, якія сталі сымбалем сіняволфай краіны.

Полацак ператварыўся ў беларускую Флярэнцыю, прыняўшы абавязкі культурнай сталіцы. Разам зь Венай і Зальцбургам ён прываблівае слухачоў клясычнай музыкі. Таксама нідзе ў сьвеце больш няма музэю бульбы, апрача як на Дзьвіне.

Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр ператварыўся ў мікрадзяржаву кшталту Ватыкану. Рэлігійнае пытаньне засталося складаным, але новая унія пакрысе ядняе нацыю.

Аблічы мястаў набылі рысы эўрапейскасьці. Менск на мяжы часоў нагадвае суцэльную будаўнічую пляцоўку. Зьнесеныя Палац спорту на Нямізе, Палац Рэспублікі і пачварныя гмахі на ўскраінах, адбудоўваюцца апошнія неадбудаваныя дамы пазамінулага стагодзьдзя. Калектарная, Уральская, Радыятарная вуліцы сышлі ў нябыт і засталіся толькі ў музэі БССР. Пад яго аддалі куток сталіцы, на якім штучна захоўваецца атмасфэра тых часоў...

Беларусь — парлямэнцкая рэспубліка, актывізуецца рух нашчадкаў колішняе шляхты. Яны выступаюць за тое, каб працэдура атрыманьня грамадзянства краіны стала больш суворая, каб вымогі не абмяжоўваліся веданьнем мовы.

Таварыства Беларускай Культуры імя Зянона Пазьняка займаецца прамоцыяй беларускай мовы і культуры ў сьвеце. Гэта дзякуючы яму баскі пераклалі на сваю мову "Палескую хроніку" Мележа, у кубінскія дзіцячыя хрэстаматыі ўвайшла "Песьня пра камэнданта Чэ" Генадзя Бураўкіна, у Мантавідэа ўсталявалі памятную шыльду Карласа Шэрмана, а ў Менску — бронзавага сабаку Шніпа.

Самая папулярная газэта на пераломе стагодзьдзяў — "Вольная Беларусь". Літаратура страціла сваю сакральнасьць, у яе нетрах нараджаюцца перш за ўсё лёгкія раманы і любоўныя прыгоды.

У Парыжы нашчадак Мірона ўзьняў вялізны бел-чырвона-белы сьцяг на Эйфэлевай вежы і, задаволены, сплаціў штраф за хуліганства.

Адзінае, у чым беларусы засталіся кансэрватыўныя, — гэта ў ежы. Дранікі, зразы, клёцкі — на стале кожнага беларуса. Зьнізілася спажываньне гарэлкі, але павялічыўся выраб піва, якое экспартуецца найбольш у Нямеччыну.

**Арцём Арашонак**

# ШТО З МОВАЮ, ХЛОПЦЫ?




## Каб не палітычнае адценьне...

**— Часопіс «Кур'ер» — прыгожае выданьне, якое прыемна ўзяць у рукі й чытаць. Аднак нашаніўскаму чытачу не стае ў ім беларускай мовы. Вы думаеце, што, калі зрабіць яго хаця б напалову беларускамоўным, ён згубіць сваіх чытачоў ці павялічыць наклад?**

**Ігар Германчук, рэдактар часопісу "Кур'ер":** Частка аўдыторыі наракае, што замала беларускамоўных тэкстаў. Іншыя кажуць: як добра, што па-беларуску няшмат. Неяким чынам мусіш выбіраць баланс. Такія ўмовы дыктуюць рынак, чытач і рэклямадаўца. Напрыклад, у нас ёсьць некалькі рэклямадаўцаў, якія просяць ставіць іх рэклямныя модулі на расейскамоўныя тэксты. Яны сыходзяць з таго, што расейскамоўны тэкст, незалежна ад яго прафэсійнай якасьці, прачытаецца шырэй.

А зь іншага боку — праблема якасьці беларускамоўных тэкстаў. Я б з задавальненьнем друкаваў якасныя аналітычныя артыкулы па-беларуску. Аднак у нас на мэдыйным рынку сярод журналістаў ёсьць толькі пара аналітыкаў, якія могуць якасна, зразумела, даступна, чытэльна пісаць па-беларуску.

У свой час я выдаваў газэту «Свабода» цалкам на беларускай мове, і нават «тарашкевіцай». І наклад сягаў дзясяткаў тысячаў. Газэта мела й папулярнасьць, і чыталася. Гэта быў пачатак 90-х, калі атмасфэра ў грамадзтве ў дачыненьні да беларускай мовы была добразычлівая. Усе лічылі гэта прагрэсіўным. Пасьля рэфэрэндуму 1995 г. рэзка зьмянілася стаўленьне да беларускай мовы ў грамадзтве.

**— А ці не дапускаеце Вы думкі пра вяртаньне тых шчасных часоў? Мо мы прыдумалі, што немагчымае іх вяртаньне?**

— Такое рэзкае вяртаньне, якое адбылося пасьля краху камунізму й распаду СССР на працягу літаральна году-двух, зараз наўрад ці магчымае. Думаю, што гэта будзе адбывацца больш паступовым шляхам. Многае будзе залежаць ад тых, хто піша й выдае па-беларуску, ад якасьці беларускамоўных прадуктаў. Якасны беларускамоўны прадукт будзе папулярызаваць беларускую мову значна эфэктыўней, чым сотні тэкстаў у яе абарону.

**— Вы друкуеце ў часопісе каляровую рэкляму на добрай паперы. Швайцарскія гадзіньнікі і г.д. Не спрабавалі пераканаць рэклямадаўцаў, што беларускі тэкст у такім шыкоўным аздабленьні будзе выгадна вылучацца сярод аналягічных падобных рэклямаў?**

— Пераконваць не спрабавалі. Мяркуючы па нашых назіраньнях, калі б выданьне было цалкам беларускамоўнае, то наўрад ці б яны згадзіліся даваць рэкляму. У іх ёсьць свае стэрэатыпы. Яны ня хочуць пазыцыянаваць на рынку зь беларускамоўнымі слоганамі. Яны лічаць, што тут можа быць нейкае палітычнае адценьне.




## Мова пераменаў

**— На старонках абсалютна непалітычнай, несур'ёзнай, *«весьма минской»* газэты *«Отдыхай»* дагэтуль не заўважаў нашай мовы, але там сталі зьяўляцца вялікія й зьместоўныя інтэрвію зь дзеячамі беларускай культуры — Валянцінам Тарасам ці Артурам Вольскім, напрыклад. Вы сустрэлі мяне радасным паведамленьнем, што «гатовыя нават дапусьціць беларускую мову ў нашае выданьне, і што неўзабаве выйдзе вялікае інтэрвію з Рыгорам Барадуліным». Гаворачы пра зьяўленьне беларускай мовы на старонках *«Отдыхай»*, Вы кажаце «нават». Гэта што, анамалія? Беларускамоўнасьць супярэчыць Вашаму бачаньню камэрцыйнага посьпеху?**

**Кацярына Высоцкая:** Так, хочам мы таго ці не, але безумоўна камэрцыйны посьпех выданьню можа прынесьці расейская мова. Расейскія выданьні, *"АиФ", "Комсомолка"* й г.д., займаюць першыя радкі ў рэйтынгах папулярнасьці ў Беларусі. Тым ня менш, я ўпэўненая, што на мясцовым рынку немагчыма й непатрэбна змагацца з расейскімі выданьнямі. Іх век кароткі не кароткі, але вызначаны. Да нейкага моманту яны будуць тут дамінаваць. Аднак надыйдзе момант, калі ў краіне адбудуцца перамены — і беларускамоўныя выданьні паднімуцца. Мы ня хочам упусьціць гэты момант, ня хочам застацца ў эшалёне з гэтымі расейскамоўнымі выданьнямі. Таму мы пачынаем частковае ўвядзеньне беларускай мовы.

**Гутарыў Зьміцер Бартосік**

СВОБОДНЫЕ НОВОСТИ

## Умоўная будучыня

**— Якой Вам бачыцца будучыня беларускай мовы?**

**Аляксандар Уліцёнак, галоўны рэдактар *"Свободных Новостей"*:** Справа ў лёсе нашай дзяржаўнасьці. Калі Беларусь захавае сваю незалежнасьць, яна здолее ўвайсьці ў эўрапейскі дом па першым часе нават расейскамоўнай. Расейскамоўная Беларусь у эўрапейскім супольным доме — гэтая карціна бачыцца мне рэальнай. Калі гэта будзе рэальная незалежнасьць, справа пойдзе такім чынам, што ўрэшце беларуская мова будзе набіраць абароты, і мы атрымаем сытуацыю, зусім не падобную да сёньняшняй. У беларушчыны ёсьць будучыня пры ўмове незалежнасьці нашай краіны.

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Які транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Пачынаючы з 25 сакавіка штотыдня — мары і фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў новай рубрыцы "НН" — "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**В.Лазовічы**, Менск. губ. Слуцк. пав. Сьвяшчэньнік сяла Блячына прыехаў сюды, каб пахаваць нябожчыка. Пайшлі на могілкі, сьвяшчэньнік, стаўшы блізка да долу, пачаў сьвянцаць магілку. Ужо скончаў бацюшка гаварыць апошнія словы малітвы, як раптам пад ягонымі нагамі зямля абвалілася, і бацюшка паляцеў у яму: крыж, што стаяў ззаду сьвяшчэньніка, таксама паляцеў у магілку і надта моцна ўдарыў сьвяшчэньніка па галаве. Прычынай гэтаму, як кажуць, была сьвежапарушаная зямля, бо побач хавалі ня надта даўно нейкага чалавека.

**Лявон Лобік**

**В.Крамянец**, Віленск. губ. Вялейск. пав. Хаценчыцкай вол.

...Найбольш цікавы у нас "сьвяты" камень, каторы ляжыць недалёка ад вёскі. Камень як камень, толькі на ім ёсьць дзьве ямкі, а пры ім крыніца, дык людзі тутэйшыя кажуць, быццам калісь-то на гэты камень ступіў нейкі сьвяты, вось і засталіся сьляды, і крыніца адчынілася... ыВада з гэтай крыніцы таксама лічыцца сьвятой і быццам дапамагае ад усялякіх хваробаў; людзі здалёку прыходзяць па гэтую ваду і кладуць ахвяры — палатно, грошы — у капліч-ку, зладжаную каля камення. Так крэпка тут людзі вераць у сьвяты камень, што два разы ў год бывае кірмаш пры ім (на Ільлю і на Спаса). Зьяжджаецца многа народу з усялякімі таварамі і, выпіваючы, цярэбяць адзін аднаму бакі. На час кірмашу прыяжджае і сьвяшчэньнік (зь в.Батурына, Хаценчыцкай вол.) ды адпраўляе набажэнства. Цяпер разышлася чутка, што начальство не дазволіць больш на набажэнства пры камені.

**Зьмітрок Бядуля**
**1911, 26 траўня, №20**



АЛЕСЬ МЕМУС

# Нешта аднаго аберагае, а іншага адразу губіць



**Гэта фрагмэнты ўспамінаў, якія я запісала ад сваёй бабулі — Лідзіі Бязручкі (Саўцінай). Нарадзілася яна 25 сакавіка 1918 г. у Гомелі. Ейны бацька працаваў на чыгунцы кандуктарам. Цяпер бабуля жыве ў Воршы на вуліцы Караткевіча і вельмі сумуе за родным Гомелем. Кожны дзень згадвае яго. Я запісала бабуліны ўспаміны пра даваенны Гомель. Потым была вайна, выхад з акружэньня, шлях пешкі з Заходняй Украіны, турма. Бабуля ня любіць згадваць пра гэта. Перад яе вачыма паўстае даваенны Гомель.**

Мы жылі ў Залінейным раёне. І цяпер наш дом з чырвонай цэглы стаіць на вул.Ватуціна. Усе мае сёстры былі старэйшыя за мяне. Паміж усімі была вялікая розьніца ў гадох. Сястра Поля старэйшая за мяне на 18 год. Я была самая меншая, апошняя. А ўсе ўжо дарослыя, замуж павыходзілі.

Амаль штодзень хадзілі ў парк, мінаючы невялікія каталіцкія могілкі зь вельмі старымі магіламі, прыгожымі помнікамі й скляпамі. Пасьля могілкі пачалі разбураць, мы бачылі — ляжалі на ходніках косткі. Пасьля косткі згрэблі, як сьмецьце, і прыбралі. Можа нехта і забраў парэшткі сваіх пахаваных сваякоў... Калі было каму забіраць. І цяпер, калі я думаю пра Гомель, часам згадваю гэтыя маленькія могілкі, згадваю, як косткі ляцелі на дарогу. І кожны раз узьнікае непрыемнае адчуваньне. Так усё добрае пра Гомель узгадваецца зь дзяцінства, толькі вось гэта пячэ...

## ДРАЎЛЯНЫ ЦЫРК

Гэтае месца вызвалялі для цырку. Зрабілі падмурак проста на магілах. Будынак быў драўляны, зь вялікім купалам. На гастролі прыяжджалі цыркавыя трупы зь іншых гарадоў — у Гомелі сваёй не было. І амаль штогод у цырку здаралася трагедыя. То нехта з артыстаў сарвецца з трапэцыі, то яшчэ штосьці... Цыркачоў хавалі на гомельскіх могілках на Савецкай (там, дзе цяпер будуецца новы касьцёл). Я нават асобныя магілы памятаю. Крыжоў тады ня ставілі — збольшага "тумбачкі". Магілы былі направа ад уваходу (з боку вуліцы Кірава), там былі яшчэ лётчыкі пахаваныя — стаялі прапэлеры на магілах. Шмат магілаў лётчыкаў было. Там побач пахаваная і мая маці — памерла ў вайну, і сяброўка мая Поля. Немцы для сваіх адмысловыя могілкі зрабілі — у парку зьлева. Італійцаў, немцаў, усіх вайскоўцаў там хавалі.

А драўляны гомельскі цырк згарэў падчас вайны. Я ня памятаю, што цяпер на гэтым месцы.



## РУЙНАВАНЬНІ

Да вайны Гомель прыгожы быў. Аднак савецкая ўлада ўсё нішчыла. Я дагэтуль дзіўлюся, як яны палацу Паскевіча не зруйнавалі. І цэрквы такія прыгожыя былі, і каля парку вялікі касьцёл — усё зьнесьлі. Каму гэта перашкаджала? Як яшчэ парк захаваўся! Аднак і там шмат дрэваў рэдкіх загінула. І людзей шмат крыўдзілі. Не было такой інтэлігентнай сям'і, каб нехта ня быў сасланы.

Тату нашага, сталага чалавека, і таго затрымалі на тры дні. Ягоных вясковых сваякоў раскулачвалі, а адзін некуды ўцёк. Тату трымалі, думалі, што ён ведае, дзе сваяк. Час быў вельмі страшны, усе баяліся. Нават Стафан наш, муж маёй старэйшай сястры Паліны. Хто ён быў? Бугальтар. А таксама баяўся, што прыйдуць і забяруць.

Цэрквы зачынілі, разбурылі, і мая мама хадзіла ў маленькую драўляную царкаўку на вул.Палескай — у нас у Залінейным раёне. Перасьледавалі рэлігію, але людзі ўсё адно верылі ў Бога. Такія, як мы, камсамольцы, можа й не, але старэйшыя людзі — верылі. Вялікдзень у нашай сям'і сьвяткавалі. Колькі жыла мая маці — пякла булкі, у яе адмысловыя формы былі. Яйкі абавязкова фарбавалі, тата на кірмаш хадзіў па цяляціну. Нават у тыя цяжкія часы на кірмашы цяляціна была.

## СЫРЭНЫ ПА ЛЕНІНУ

Маім бацькам вельмі не падабалася савецкая ўлада. Маці казала пра Леніна: "Гэта прыйшоў сатана". Так яно й было. То таго, глядзіш, выслалі, то таго.

Я памятаю дзень, калі памёр Ленін. Мне было пяць гадоў. Я выйшла на ганак адна. Хто быў дома, ня памятаю. І раптам загулі сырэны. Каля нас былі паравознарамонтныя майстэрні — адтуль такія страшныя гудкі пайшлі. Я вельмі напалохалася, памятаю дагэтуль, як я зьлякалася.

## МАРКІЗ ДЭ САД

У нас дома было шмат дарэвалюцыйных кніг, яны належалі маім сёстрам. Я любіла чытаць позна ўвечары, калі бацькі ўжо спалі. Узьлезу з нагамі на стол і чытаю. Страшна было, здавалася, што пад сталом нешта ёсьць. Чытаю Гогаля "Вій", і страх бярэ. Гэты вялікі стол і цяпер ёсьць у Гомелі. Была ў нас кніга маркіза дэ Сада. Я ўзяла яе аднойчы ў школу, хацела сяброўкам паказаць. А настаўніца заўважыла, была непрыемная гісторыя...

## СЯСТРА

У дзяцінстве мяне сястра Воля апранала — яна сама шыла, перашывала. Яшчэ яна сьпявала ў хоры, які ў часе вайны трапіў пад акупацыю ў Харкаве. Пасьля Воля апынулася ў Амэрыцы і там працавала на радыё — сьпявала. Там зусім іншае жыцьцё было. Я аднойчы павіншавала яе з 9 траўня, а яна мяне спытала ў наступным лісьце: "Ліда, з чым гэта ты мяне павіншавала?" І ўсе даваенныя здымкі, якія ёсьць у нас, гэта Воля даслала з Амэрыкі ўжо ў 70-я. На адвароце адной карткі: "Лідачка, не крыўдуй, што я вяртаю здымкі. Калі буду кепска сябе адчуваць, я іх усе спалю, а ў цябе ёсьць дзеткі, якія будуць памятаць маму і тату".

## ТЫФУС З-ЗА СЬНЕЖКІ

Мая сяброўка Паліна памерла ў юнацтве — зьела брудную сьнежку, калі мы коўзаліся на каньках. У парку быў каток вялікі, перад Палацам. Сяброўкі Паліна і Маруся зьелі сьнежкі й захварэлі на брушны тыфус. Паліна памерла, Маруся засталася жывая, перахварэла. А Паліна — адзіная дачка ў бацькоў была. Яны жылі вельмі добра, багата. Ейны бацька працаваў на КВЖД. Ён з Далёкага Ўсходу прывозіў такія рэчы, якіх у нас ніхто ня бачыў. Тады ж у продажы не было нічога. А Паліна заўсёды была прыгожа апранутая па тых часах. Давала і сяброўкам насіць свае рэчы. Добрая была. Гадзіньнік у яе быў вельмі прыгожы, яна дала яго часова хлопцу. Потым Паліна памерла, а гадзіньнік у яго так і застаўся. Цяпер, можа быць, і ўратавалі б яе, а тады лекаў такіх не было. Не было антыбіётыкаў. Не лячылі людзей амаль.

## САМАЛЁТ

Мы ўсе, дзяўчаты, паступалі ў мэдыцынскі тэхнікум, вучыліся на фэльчараў. Пасьля сканчэньня я працавала ў порце. Былі ў Гомелі параходы, што хадзілі ў Кіеў. Вялікія, вы такіх і ня бачылі — двухпавярховыя. А пасьля мяне перавялі на дэбаркадэр каля парку. З гэтага дэбаркадэру я аднойчы глядзела на маленькі двухмясцовы самалёт. Ён лётаў, насіўся, круціўся. Над самай маёй галавой. Я падумала: "Зараз зваліцца!" Ён раз — і на ваду зваліўся.

## "ЗНАК ПАШАНЫ"

Зь Пятром мы пазнаёміліся ў кіно імя Калініна. Там ён мяне заўважыў. Іхная вайсковая частка стаяла ў Лешчанцы. Пятро ўжо тады меў ордэн "Знак пашаны", атрымаў у 1936 г. на вучэньнях войскаў Заходняга фронту. Ордэн яму ўручаў маршал Конеў.

Тады ордэн меў вялікае значэньне, усе зьвярталі ўвагу. Дый сам Пятро быў відны. Пасьля мы сустракаліся на танцах, у клюбе імя Леніна. Потым ён пачаў заходзіць да нас дамоў. Мама мая вельмі незадаволеная была, не прыйшоўся ён ёй да душы. А пасьля я за яго замуж выйшла.

## ПЕРШАЯ ДАЧКА НОНА

Маленькая была. Памерла ад дызэнтэрыі ў часе эпідэміі. Была б большая крыху, мо й уратавалі б. Я, яшчэ калі ня замужам была, бачыла сон: з нашага дому выносяць зусім маленькую дзяўчынку ў труне: хаваюць...

## БАЯВЫ АФІЦЭР

Яму ўвесь час хацелася ваяваць. Толькі трапіць на фронт, як зь ім абавязкова нешта здарыцца. На Фінскай вайне перабіла ногі: стаяў у танку, высунуўшыся зь люка. Увесь экіпаж загінуў, а яго выкінула. У Фінскую вайну шмат параненых было. У Ленінградзе ўсім месца не ставала, развозілі па гарадах. Так ён трапіў у Сярдобск. Пасьля 39-га іхны дывізіён стаяў у Заходняй Украіне — у замку Сапегі. Прыгожы замак. Я гуляла ў валейбол з маладымі афіцэрамі. Да нас прыходзіў праваслаўны сьвятар, сымпатычны такі, мы сябравалі гаварылі доўга. Вайна засьпела мяне ў Гомелі. Прыехала ў Гомель — і абвясьцілі: вайна. Я ўвечары села ў цягнік і паехала ва Ўкраіну, у вайсковую частку, у мэдсанбат.

## АКРУЖЭНЬНЕ

Вельмі кепска пачалася вайна — усе былі ў акружэньні. Не пасьпееш з аднаго акружэньня выйсьці, трапляеш у другое, трэцяе.

Пасьля так акружылі пад Роўна, што мы ўжо выходзілі, хто як мог. Я ішла з адной доктаркай з Чарнігава. Па дарогах рухаліся калёны немцаў, не зважалі ні на кога. Адборныя часткі! Тады шмат было прыгожых мужчын — і сярод нашых, і сярод немцаў, — найлепшыя пасьля загінулі, параненыя. Мы немцаў па дарозе пазьбягалі, баяліся, ня ведалі, што яны зоймуць усю тэрыторыю, думалі, што ўцячэм ад іх. Спачатку ішлі на Кіеў, а Кіеў ужо быў акружаны, але яго не здавалі. Мы пайшлі на Гомель. Прыйшлі, а там ужо немцы таксама. Яны вельмі хутка рухаліся, не пасьпееш азірнуцца, а места ўжо занятае.

## УВАРАВІЧЫ

Пры немцах мы не маглі жыць ў Гомелі. Пятро выйшаў з акружэньня пад чужым украінскім прозьвішчам Яўстратчанка. У Гомелі яго кожны мог пазнаць і выдаць. Таму мы жылі ў мястэчку Уваравічы.

Там давялося і хлеб сеяць, і карову трымаць, каб неяк жыць. Пеця працаваў у тамтэйшай краме і падтрымліваў сувязь з партызанамі. Пасьля быў вымушаны нагул сысьці ў партызаны. А я не пасьпела.

## ГОМЕЛЬСКАЯ ТУРМА

Маіх бацькоў узялі ў закладнікі, каб мяне забраць. Я ня стала хавацца, прыйшла — немцы іх адпусьцілі, а мяне арыштавалі й пасадзілі ў гомельскую турму. Яна была на скрыжаваньні Савецкай з Рагачоўскай. Сядзела я там колькі месяцаў, пакуль не падышлі савецкія войскі. Са мной забралі дактароў — Ніну з Уваравічаў і Вольгу Стафанаўну. Яны ня мелі ніякага дачыненьня да партызанаў. Іхныя сваякі-паліцаі палічылі, што ў іх ёсьць золата, дый пасадзілі іх нізавошта, каб яго забраць. А галоўны паліцыянт ва Ўваравічах пасадзіў цэлую сям'ю — мужа, жонку, дзяўчынку 18 гадоў і хлопчыка, — што хацелі, тое і рабілі.

## ПАРАШУТЫСТКА

Да нас у камеру пасадзілі адну дзяўчынку... Яе высадзілі расейцы — з парашутам. Відаць, нехта яе выдаў. У камэры яна ўвесь час маўчала, нічога пра сябе не расказвала. Доўга парашутыстку не трымалі — павялі і расстралялі. З намі яшчэ разьбіраліся, марудзілі, а яе — адразу. Такая была слаўная — ціхая, бялявая...

## САВЕЦКІЯ ВОЙСКІ

Вельмі нечакана падышлі да Гомеля савецкія войскі. Пра нас забыліся, ахова разьбеглася са страху. Людзі нам адамкнулі, выпусьцілі нас, і мы разышліся па хатах. Я прыйшла дамоў, там была мама... Працаваць я вярнулася да воднікаў на дэбаркадэр. Пятро пайшоў у войска. У Полацку яго параніў снайпэр — выбіў вока. Пятро быў вайсковым камэндантам Магілёва, пакуль не дэмабілізавалі й не паслалі на працу ў Воршу. Жылі мы на Ленінскай каля *ваенторга*. *Ваенторг* разабралі летась, а ў гэтым разьбяруць і дом, дзе мы спачатку жылі. Як мне тут не падабалася!..

У нас быў аўчар шэры, узялі шчанюка ад сабакі-мінёра. Вельмі добры быў сабака. Яго скралі. Каля *ваенторгу* заўсёды машыны вялікія вайсковыя спыняліся — вось і зьвезьлі сабаку.

## ЛЁС

У мяне ў маладосьці нічога добрага не было. Не пасьпееш уладкавацца, як абвязкова нешта здарыцца. Неспакойна было. Відаць, у кожнага чалавека ёсьць лёс — вось так табе трэба, так табе і будзе. І гэтага не абыдзеш. Можа, ёсьць людзі больш настойлівыя, з моцнай воляй, яны могуць нешта зьмяняць. Аднак усё адно ёсьць тое, што чалавеку суджана. Чаму аднаго чалавека забіваюць, а ты побач — і жывы застаешся? Адзін падае, а другі ідзе — гэта ў адным і тым самым шэрагу. Каму што... Некаму дадзена, як мне, дажыць да старасьці. А іншаму памерці ад гадкай хваробы маладым.

**Запісала Паліна Сьцепаненка**

# Асаблівасьці нацыянальнага алькагалізму

**Заканчэньне.**
**Пачатак у папярэднім нумары.**

Алесь Чобат

З пункту гледжаньня мэдыцыны алькагалізм падобны да хранічнага атручваньня са сталым *назапашваньнем* атруты ў крыві, а праз кроў — практычна ва ўсім чалавечым целе ад мозга да касьцей і скуры. Таму ня "чысты" алькагалізм — сапраўдны паказьнік алькагалізму. Незваротнае назапашваньне *прадуктаў* узаемадзеньня алькаголю з крывёй і жывымі тканкамі (алькалёіды мэталяў *etc.*) можа выклікаць любую хваробу, нават той самы рак, які сьпісваюць выключна на Чарнобыль. Алькалёіды аслабляюць *абарончыя здольнасьці* чалавечага арганізму. Адрозьненьне толькі ў тым, што мужчыны часьцей гінуць ад банальнай язвы, а жанчыны ад 40-га году жыцьця западаюць у маразм і з тым маразмам атрымліваюць казённую пэнсію да 80-ці (на казённую ж службу, ды яшчэ начальніцкую, цягаюцца да 75-ці). Нацыя хворая на алькагалізм *уся пагалоўна*.

Сам жа па сабе алькагалізм падзяляецца на тры стадыі. На першай, самай лёгкай, тэарэтычна ўсё яшчэ можна выправіць (толькі не ў круцялёў зь іхнімі таблеткамі ды "кадзіраваньнем"!): кроў суткі-другія пераганяецца праз ачышчальную калёнку (найлепш цэалітавую), брыдота выводзіцца з арганізму на 99%, а потым лепш ня піць зусім. Бо раз на два-тры гады "пачысьціцца" няма як — кроў нават на цэалітах зьмяняе мікраструктуру, таму працэс ачысткі няможна паўтараць бясконца.

Другая ступень нашмат цяжэйшая — хвароба ўжо невылечная. Патрэбны дагляд, дыета, спакой, лекі і лекары. Гэта ўжо жыцьцё *калекі* (хоць можна і працаваць, і выглядаць нармалёва).

Трэцяя стадыя — "жывы труп". Тут у мэдыкаў выбар невялікі — або змагацца да апошняга, або даць "сьвенты спокуй" пацыенту і сабе, каб не пакутаваў чалавек лішнія месяц-другі і жонку заплаканую ня мучыў...

Чамусьці ўсе ўпэўненыя, што на любой стадыі алькагалізм можна вылечыць: "кінуў піць" — значыць, здаровы. А хвароба цячэ сабе далей, праядае ўсё ад касьцей да мозгу і невядома, дзе і ў якой форме выявіцца. Ад алькагалізму вылечыць немагчыма — як ад раку.

Горш за ўсё тое, што нават людзі, якія не даехалі да трэцяй стадыі, усё адно хворыя. У іх напалову адключаны мозг: працуе толькі на засваеньне інфармацыі, але не на яе прадукаваньне. Чаму, думаеце, беларусы гэткія "працавітыя", але кроку ня могуць ступіць без начальніцкай каманды? Чаму нават у "нармалёвых" сем'ях, дзе муж не "закладае", усё адно *жанчына* кіруе, прынцыповыя рашэньні прымае і грошы лічыць?! Бо "мужык" больш прапіты — і яго мозг ужо нічога не прадукуе самастойна. Зайдзіце на любы кірмаш: жанчына за прылаўкам гандлюе і касу трымае, а ейны муж — грузчык, мясьнік і кіроўца *BMW*. Трагедыя беларусаў, аднак, у тым, што дома, па ўдалым гандлі, сапраўдная беларуская жанчына — астатні шанец гэтага Краю — налівае сыну *чарку* ліманаду. І кола круціцца далей.



IREX-PROMEDIA

> *"Культура гарэлкі" — адвечнае спаборніцтва: крык, тлум і гвалт*

*Асаблівасьць беларускага алькагалізму ў тым, што ён калектыўны.* Такіх хваробаў мноства (клан, "нівэляваньне", астракізм "не такіх, як усе", *etc.*), але менавіта алькагалізм — як сродак "натуральнага адбору" — адбівае найбольш яскрава нашыя нацыянальныя рысы.

Апошнія сто пяцьдзясят гадоў фармаваньне нашай "нацыянальнай сьвядомасьці" адбываецца пад знакам суцэльнай папіюхі. Першыя бровары зьявіліся ў "польскіх маёнтках" пасьля бяздарна прайгранага "лістападаўскага паўстаньня" 1830 г. У паноў пачалі адбіраць зямлю, ціснуць рэвізіямі. Трэ было шукаць нейкія дадатковыя крыніцы фінансаваньня. Сапраўдны ж бум бровары перажылі пасьля рэформы 1861 г. — зьявіўся *мясцовы рынак збыту*, учорашні Яська-халоп! Бо раней спойваць "свайго" раба было невыгодна, іншая справа — свабодны чалавек... Але тады гарэлка нагадвала цяперашняе "чарніла" — градусаў 20—25. Становішча зьмянілася пасьля таго, як прафэсар Дз.Мендзялееў вырашыў задачу, пастаўленую прамысловікамі Сьмірновым і Шуставым: які мае быць адсотак сьпірту ў гарэлцы, каб чалавек за адзін год ператвараўся ў алькаголіка і сталага кліента Сьмірнова і Шустава? Аўтар пэрыядычнай табліцы элемэнтаў высьветліў гэты адсотак. *Сорак градусаў*. З той пары так і не высыхаем... Дарэчы, беларусы спраўна спрычыніліся да паўстаньня "саракаградуснай": кансультаваў Дз.Мендзялеева ягоны прыяцель, інжынэр Леанард Іваноўскі, які працаваў на Енісеі ў героя паўстаньня 1863 г. Козеля-Паклеўскага. Апошні на кітайскай мяжы наладзіў прамысловы гідроліз сьпірту з драўніны, што валяецца ў тайзе пад нагамі. Сьпірт ішоў у Кітай, зыскі дасягалі тысячы адсоткаў...

З 80-х XIX ст. гарэлка ў Менску і Горадні была *самай таннай* ва ўсёй Расейскай імпэрыі — папулярны "мерзавчык" (250 г) каштаваў... *пятнаццаць* капеек пры заробку менскага пралетарыяту ад шасьцідзесяці капеек за дзень на будоўлі да рубля дваццаці капеек за дзень у сьлясарцы ці на чыгунцы. Пераважная большасьць гарэлкі з радзівілаўскіх і вайніловічаўскіх бровараў рэалізоўвалася на месцы, праз славутыя жыдоўскія карчмы і шынкі. Гналі з бульбы, а не з бурака ці збожжа — як на Волзе ці ва Украіне, і праз горшую якасьць не маглі канкураваць у сталіцах.

Калі за адно *дзейснае* пакаленьне лічыць дваццаць гадоў, дык беларуская нацыя ў хранічным запоі пакаленьняў шэсьць-сем. А алькагалізм — *хвароба спадчынная*.

Яе праявы ў беларускім нацыянальным характары відавочныя. Чаму гэта беларус — гасьцінны, памяркоўны, спакойны — раптам выбухае порахам, як толькі яму што ня так? Пры гэтым "памяркоўныя" мы перад *начальствам*, а равем і крычым на "сваіх", у сябе дома? Бо "саракаградусная" вядзе чалавека па сынусоідзе: па дзьвюх чарках вясёлы, па чатырох — шалёны, сьледам кароткі сон, потым па дзьвюх чарках шалёны, а па чатырох — ізноў вясёлы... Вось і ўся "беларуская шчырасьць", "беларуская няўрымсьлівасьць", ці як там яшчэ нашае *непастаянства* называецца.

За апошнія дзесяць год канчаткова склаўся чарговы "адраджэнскі" міт: *гарэлку да нас прынесьлі саветы з Усходу*. Каб зьнішчыць наш самы лепшы ў сьвеце народ дзеля інтарэсаў "імпэрскай Расеі". Расейскі алькагалізм — расейскае гора. Мы гаворым пра алькагалізм беларускі. Паглядзіце яшчэ раз клясыкаў: Багушэвіч, Колас — да чаго іх пэрсанажы падобныя да цяперашніх "алькашоў"! У мэмуарах Максіма Танка прыгадваецца, як летам 1939 г. у ягоную Пількаўшчыну прыехала ўся паліцыя зь Мядзелу — на чале з капітанам, на дванаццаці фурманках і з кулямётчыкамі — ганяць самагоншчыкаў... А мая маці апавядае, што "раней зусім не пілі", бо "за польскім часам" вясковыя гаспадары, намерзшыся дзень на кірмашы ў Скідалі, бралі на шэсьць санак... "чакушку" (250 г), каб пагрэцца. "Чакушку!" — трэсла пальцам маці. "А цяпер што?!" Цяпер тое самае і тады тое самае — толькі што польскія ўлады за самагонку давалі штраф... у дзьве добрыя каровы. Таму і скідаліся вясковыя жабракі ў Скідалі на "чакушку" манапольки, а вось дабраўшыся пад ноч да вёскі, "грэліся" як сьлед. Карані ўсіх легендаў і мітаў банальна простыя, але такія "матэрыяльныя", што нашая народалюбная інтэлігенцыя ўспрымае іх як... *абразу нацыі*.

> *З 80-х XIX ст. гарэлка ў Менску і Горадні была самай таннай ва ўсёй Расейскай імпэрыі*

Алькагалізм быў малазаўважны за царска-панска-савецкім часам, але ў XXI ст. ён *выпірае* з Эўропы так, што не заўважыць яго немагчыма. На Захадзе пануе пераважна *культура віна*, а бліжэй да нас, у Чэхіі і Нямеччыне, *культура піва*. У нас пераважае "*культура гарэлкі*". Першыя дзьве — гэта культуры размовы, талеранцыі і... абыякавасьці да суседа. Сказаў чалавек нешта — ягоная справа, а змаўчаў — ізноў яго справа. А нашая "культура гарэлкі" — адвечнае спаборніцтва: крык, тлум і гвалт. Мы ўжо нават *цьвярозыя* ня можам спакойна выслухаць адзін аднаго. Нам абавязкова трэба кожнага пераканаць, перавыхаваць, перавярнуць на свой капыл. Не ўтрымаюся ад паўтору майго ўлюбёнага сьв.Лукі: "І прыйшло ім да галавы: *хто зь іх быў лепшы?*" Культура віна ёсьць культурай самадастатковасьці. Культура гарэлкі — культура... крыўды і непаўнавартасьці, *культура вайны* ўсіх з усімі, "каб усе былі, як усе".

Толькі што "пераход на віно", паводле вэрсіі "адраджэнцаў", альбо на піва, паводле вэрсіі "новага пакаленьня", прынцыпова нічога не вырашае. Гэта прыблізна тое самае, што цягаць "мэрсэдэсам" бульбу з гуркамі... *Наш алькагалізм даўно ўжо анэксаваў нават абстынэнтаў*. Алькагалізм па-беларуску — гэта спосаб жыцьця у фантастычных апавяданьнях, як шляхціц Завальня. Гэта вечна-спрадвечны беларускі сон. На халеру тая фактура з аналізам?! "Мне сьняцца сны аб Беларусі..." Так і жывем...

## Лісты ў рэдакцыю

# Нацыянальны дух

Сёньня, калі нават нядаўнія прыхільнікі ППРБ кажуць, што Беларусь павінна быць незалежнай, я чамусьці не адчуваю радасьці, якая апаноўвала мяне яшчэ тры гады таму, калі сусед у цягніку аказваўся беларускім патрыётам. Няма таго трымценьня, якое было ў сьнежні 1988 г., калі да мяне, салдата-страйбатаўца, што праходзіў тэрміновую службу ў Маскве, прыехала маці й паведаміла пра падзеі ў Курапатах. Няма цяпер у коле сьвядомых беларусаў той еднасьці, якая адчувалася ў Маскве пры канцы 80-х паміж намі – салдатамі-беларусамі. Няма таго духу, што лунаў у Менску ў 1991 г., але потым растварыўся ў моры штодзённых пытаньняў, баталіяў міжпартыйнай барацьбы. Цяпер, назіраючы, якая варожасьць часам пануе ў асяродзьдзі сьвядомых беларусаў, як беларускі мужык-рабацяга не без дапамогі дзяржавы ператвараецца ў хранічнага алькаголіка, як усюды пануе здрада і данос, а ў БНФ уступаюць, толькі каб атрымаць пасьведчаньне, а потым уцячы за мяжу, – разумееш, што за 12 год мы так і ня сталіся нацыяй у поўным сэнсе гэтага слова. Крыўдна, што нават той мільён сьвядомых беларусаў ня здолеў аб'яднацца й утварыць хай сабе й невялічкую, але здаровую й жыцьцяздольную нацыю.

Галоўная прычына сёньняшняга становішча – прафанацыя нацыянальнай ідэі, што была падмененая іншымі ідэямі – дзяржаўнай, палітычна-партыйнай і нават культурна-асьветніцкай.

А без паўнавартаснай нацыі ня можа быць і паўнавартаснай дзяржавы. Хіба што марыянэткавае ўтварэньне кшталту сучаснай РБ. Народ толькі тады зьяўляецца народам, калі ягоныя прыналежнікі аб'яднаныя адзіным Духам братэрскае любові адно да аднаго.

Дарэчы, праява сапраўднай нацыянальнай ідэі неяк мільганула на старонках "НН". Гэта нататка С.Адамовіча пра "мастоўскую мафію" ў Нью-Ёрку.

**Сяржук Пятровіч, Барысаў**



# Лепш мільён, чым дзесяць

**Мне спадабаўся ліст "Невядомага жаўнера" і водгукі на яго. І я вырашыў падзяліцца сваімі думкамі наконт сучаснага стану беларушчыны.**

Галоўная нашая бяда сёньня – мы слаба арганізаваныя. У нас многа рухаў і партыяў, але няма агульнай арганізацыі. Трэба стварыць Сусьветную Арганізацыю Беларусаў, якая б яднала ўсіх беларусаў ад Менску і да самых далёкіх вёсачак, ад Іркуцку да Таронта. Каб філіі яе былі ў кожным двары, у кожнай вёсцы. Ствараць свае сацыяльныя фонды, сваю самадапамогу, як гэта рабілі армяне альбо курды.



Нашыя нацыянальныя дзеячы прыклалі многа сілаў, каб стварыць у Менску дзяржаўны Нацыянальны ўнівэрсытэт. Але ніхто не спрабаваў адчыніць Недзяржаўны беларускі ўнівэрсытэт, па аналёгіі з расейскамоўнымі камэрцыйнымі ВНУ. Амаль не засталося і беларускіх школаў. На мой погляд, трэба адчыніць вячэрнія клясы, у якіх дзеткі вывучалі б нашу сапраўдную гісторыю, культуру ды мову. Хай раніцай яны ходзяць у агульнаадукацыйную школу, а вечарам – у вячэрнюю беларускую (хаця б пару гадзінаў у тыдзень). Паадчыняць усюды спартовыя нацыянальныя сэкцыі.

Трэба абуджаць самасьвядомасьць. На тыя грошы, за якія ладзяць сэмінары і фуршэты, лепей выдаць некалькі мільёнаў расейска-беларускіх слоўнікаў ды брашураў па гісторыі Беларусі і раздаць у кожную сям'ю. А хто не жадае быць беларусам, дык і ня трэба. Няхай нас будзе мільён замест 10-ці, але мы будзем ведаць, хто мы і чаго чакаем. А калі справа пойдзе, прыйдуць да нас і астатнія.

На гэтым усё. Жыве Беларусь!

**А.Л., Барысаў**

# Караоке па-беларуску

## *У Філярмоніі адбыўся вечар памяці Ігара Паліводы*

Юлія Андрэева



За пяць год пасьля заўчаснае сьмерці ягоную творчасьць высока ацэньваюць аматары музыкі. Вечар памяці сабраў поўную залю.

Набор жа выканаўцаў быў дзіўнаваты. Спачатку на сцэне завіхаліся дзяўчаты ў стылізаванай вопратцы "а la манашкі". Хвілінаў пяць яны эратычна выгіналіся ў розныя бакі, потым выйшла канфэрансьерка і абвясьціла, што перад намі выступіў Дзяржаўны ансамбль танцу, а нумар зваўся "Эўфрасіньня".

Пасьля "Хрыстовых нявестаў" выступіў мужчынскі хор Жыровіцкага манастыру пад кіраўніцтвам дзяка Андрэя Скробата. Відаць, гэта акурат і былі "іншыя зоркі беларускай эстрады", анансаваныя ў афішы. Хор складаўся зь пяцёх маладых мужчынаў, відавочна з кансэрваторскай адукацыяй. Пачалі яны бадзёра, але дзесьці на трэцім куплеце згубілі танальнасьць, і распачалася такая какафонія, што аўтар музыкі напэўна пераварочваўся ў труне.

Потым на сцэну жыцьцярадасна выскачыла Алена Саўленайтэ ды засьпявала "Па-над белым пухам вішняў". Акурат за гэтую песьню Ігара Паліводы яна атрымала прэмію на Нацыянальным фэстывалі музыкі і паэзіі ў Маладэчне. Мэлёдыя й насамрэч прыгожая. Асабліва калі яе выконваюць бяз словаў — прыкладам, на саксафоне, у клясычным джазавым "стандарце". Калі ж мэлёдыя пераплятаецца з хрэстаматыйным вершам, да якога не зусім пасуе, прыгажосьць не блякне, а ў галаву прыходзіць думка, што Палівода ніколі ня быў сапраўдным кампазытарам-песеньнікам, а імкнуўся да нейкіх іншых даляглядаў, дзе ўтульна пачуваліся амэрыканскія літвакі Джордж Гершвін ды Леанард Бэрнстайн.

Зрэшты, галапузая сьпявачка наўрад ці адчувае гэткія тонкасьці. Яна сьпявае, як умее, і сьпявае нават няблага ў параўнаньні зь іншымі выканаўцамі, што ўдзельнічалі ў гэтым канцэрце. Прынамсі, у ейным сьпеве чуваць кожнае слова. Чаго ня скажаш пра Ядвігу Паплаўскую, якая траціць усю сваю энэргію на задорлівыя падскокі ды какетлівае віхляньне клубамі.

Амаль усе ўдзельнікі канцэрту сьпявалі пад фанаграму, што было б цалкам нармалёва для вясковага клюбу, але ганебна для філярманійнае залі. Фанаграмы былі пераважна самаробныя, танныя, гук дрэнна збалянсаваны і не прыстасаваны да акустычных умоваў Філярмоніі. Многія песьні паўтараліся па два разы ў розных выкананьнях, нібыта ўдзельнікі канцэрту ня мелі, з чаго выбіраць.

Адзіным выняткам на гэтым сумным фоне сталася Інна Афанасьева, якая выканала песьню "Позьняй ноччу лучына дагарала..." зь песеннай опэры "Максім" (1987). Песьня — вельмі складаная для выканаўцы — сьпяваецца без акампанэманту. А значыцца — без фанаграмы, без падстрахоўных лінаў, якія падтрымліваюць артыста ў выпадку катастрофы. Адзінай падмогай быў мікрафон (безь якога было б лепш, бо большасьць Паліводавых твораў лепей гучыць у акустычным варыянце). Сьпявачка аж трымцела ад хваляваньня. Аднак песьня выйшла зь ейных вуснаў на адным дыханьні, сьвежая і прыўкрасная нават у сваім трагізьме. Узнагародай Іньне былі цёплыя воплескі і нават воклічы, хаця ўвогуле публіка паводзілася надзвычай стрымана і пляскала ў далоні выключна дзеля ветласьці.

У цэлым жа імпрэза не ўдалася. Між тым, Ігар Палівода напэўна заслугоўвае нашай увагі, бо быў зьяваю. Перш за ўсё, ён выявіўся як выдатны піяніст. Яшчэ ў школьныя гады яго ўважалі за генія, аднак у Маскву Палівода не паехаў. У той час у Кансэрваторыі выкладаў Ільля Шэршэўскі — надзвычай таленавіты музыка, які не зрабіў канцэртнае кар'еры з прычыны псыхічнае хваробы. Ён і прыгрэў Ігара ў сваёй клясе, і той ужо не шукаў нічога лепшага, тым больш, што побач былі сябры, зь якімі не хацелася расставацца. Вася Раінчык — вясёлы хлопец і добры піяніст, які падзяляў захапленьне Паліводы бітламі і джазам. Падчас вучобы Раінчык з Паліводам шмат ігралі дуэтам на раялях, рыхтавалі забаўныя музычныя капусьнікі для кансэрваторскіх сьвятаў. Аднак калі яны зьвярнуліся ў Міністэрства культуры, каб прабіцца на Ўсесаюзны конкурс эстрады, іх адразу ж асадзілі: "Брамса трэба граць!" Пасьля гэткага "блаславеньня" хлопцы разышліся сваімі дарогамі, хаця назаўжды засталіся сябрамі. Шкада. Паводле шматлікіх успамінаў, гралі яны ня горш, чым Кісялеўскі з Тамашэўскім. Мо калі б міністэрства пайшло ім насустрач, іхныя творчыя біяграфіі склаліся б інакш?

Палівода тым часам моцна ўзяўся за клясыку. У 1970 г. у Менску адбываўся Ўсесаюзны конкурс піяністаў, і Ігар стаўся яго дыплямантам, а мог бы дасягнуць і ляўрэацтва, калі б ня ўпартасьць. Ён абавязкова хацеў зайграць у трэцім туры "Рапсодыю ў стылі блюз" Гершвіна — між тым як "нармалёвыя" фіналісты гралі скрозь канцэрты Чайкоўскага ды Рахманінава. Ён увогуле дазваляў сабе розныя вольнасьці... Прыкладам, зайграў санату Гайдна з такім гумарам, што публіка і нават журы ад душы сьмяяліся.

Шанцаў на працяг конкурснае кар'еры ў Паліводы не было. У кансэрваторыі ён сварыўся з выкладчыкамі, потым закахаўся і з гэтае прычыны прасёдзеў на адным курсе два гады запар... Хоць ягоны бацька, таксама ж цудоўны піяніст і дырэктар Опэры быў найлепшым сябрам тагачаснага рэктара кансэрваторыі Ўладзімера Алоўнікава.

Лёс Ігара канчаткова вызначыўся толькі ў 1979 г., калі ён увайшоў у склад "Песьняроў". Аднак творчае супрацоўніцтва зь імі не магло яго задаволіць. "Песьняры" відавочна ішлі на спад. Да таго ж, творчая воля Ўладзімера Мулявіна не дапускала ніякіх іншых цэнтраў прыцягненьня ўнутры калектыву. Аднак жа менавіта для "Песьняроў" Палівода напісаў вакальны цыкл на вершы Робэрта Бёрнза.

Зь "Песьняроў" ён пайшоў з палёгкай. Пачынаючы з 1987 г., ён працуе аранжавальнікам у Дзяржаўным канцэртным аркестры. Праз ягоныя рукі прайшло мноства песень, створаных мэтрамі эстрады. Многія з тых мэтраў — народныя артысты, буйныя дзеячы Саюзу кампазытараў, прафэсары Акадэміі музыкі — умеюць кампанаваць толькі мэлёдыю з прымітыўным акампанэмэнтам. Без аранжавальніка-"нэгра" гэтыя людзі як бяз рук. Тутака і прыдаліся ўменьні Ігара Паліводы, які на той час вучыўся на кампазытарскім аддзяленьні Кансэрваторыі ў клясе Смольскага. Ён працаваў афіцыйна і неафіцыйна — за жывыя даляры, часьцяком кпіў з прымітыўнасьці кампазытарскага мысьленьня нашых "зуброў"... Аднак руплівa спрыяў ім у стварэньні іхнае дзьмутае славы. Ён быў часткаю гэтай сыстэмы; але сыстэма ўпарта не хацела яму за гэта аддзячыць.

У гэты пэрыяд свайго жыцьця ён напісаў і агромністую колькасьць уласных твораў. Па-першае, песень на замову свайго кіраўніка Міхаіла Фінберга. Па-другое, акадэмічных твораў для фартэпіяна (іх добра выконваў Алег Крымер, які нядаўна зьехаў у Нямеччыну). Песьні Паліводы часта гучалі ў праграмах Дзяржаўнага канцэртнага аркестру, але шырокай папулярнасьці не набылі, бо ў іх не было ні кроплі папсовасьці. Яны былі складаныя і для выканаўцаў, і для публікі, і для конкурсных журы. Шчыра кажучы, яны ўвогуле ня мелі дачыненьня да постсавецкае эстрады і болей хіліліся да гэтак званага "трэцяга кірунку". (Гэтым тэрмінам музыказнаўцы вызначаюць музычны стыль, сярэдні між клясыкай і эстрадай, часам з дамешкам джазу.) Музыка Паліводы шмат губляла ў выкананьні Канцэртнага аркестру. Кампазытару быў патрэбны камэрны аркестар альбо вытанчаны ансамбль салістаў...

Вось бы і ўвасобіць гэтую музыку ў належных ёй формах хаця б праз пяць гадоў па сьмерці артыста. Ды куды там! Нават старыя сябры — Раінчык, Фінберг з аркестрам — ня ўдзельнічалі ў філярманічнай імпрэзе. Спачатку мяне гэта моцна зьдзівіла, але потым я даведалася прычыну іхнае незагаворлівасьці. Вечарыну ладзіла Вольга Палівода — удава кампазытара. Рыхтуючы канцэрт, яна ні з кім ня раілася. Зрэшты, ніхто і ня стаў бы размаўляць зь ёй на гэткую тэму.

У музычных колах мяркуюць, што ейны шлюб зь Ігарам быў, так бы мовіць... крыху дзіўнаваты. У Ігара была аднапакаёўка ў Серабранцы, у Вольгі — на вуліцы Каліноўскага. Яны ніколі не жылі разам, а толькі перэтэлефаноўваліся. Іншым часам Вольга завітвала на Ігараву кватэру, але звычайна толькі для таго, каб забраць у яго новаатрыманы ганарар ці выпіць разам зь ім чарку.

На думку Паліводы-бацькі, Ігар ня быў п'яніцам. Ён не запіваўся і ўвесь час рабіў. Працуючы ў Фінберга, ён быў загружаны па самыя вушы, заўжды скардзіўся на цайтнот. Палівода быў вельмі пунктуальным чалавекам. Гэта відаць нават у ягоных партытурах — надта ахайных, напісаных каліграфічным почыркам. Выпіваў ён толькі за кампанію, а найчасьцей разам з Вольгай. "Аднойчы Вольга мне затэлефанавала — маўляў, прыяжджайце, Ігару блага, — распавядае бацька. — Я ўзяў таксоўку і паляцеў. Калі я адчыніў дзьверы ў кватэру, абодва былі п'яныя".

Алькаголь напэўна ня быў прычынаю заўчаснай Ігаравай сьмерці. Прычынаю была хвароба сэрца, якую выявілі толькі падчас паталягаанатамічнага дасьледаваньня. Гэта была міна запаволенага дзеяньня, пра якую ніхто нават не падазраваў. Аднойчы раніцой маладзюткая сваячка, якая гасьцявала ў Ігаравага бацькі, завітала на кватэру Ігара, каб занесьці яму нейкія пазычаныя ў яго касэты. Прыйшла і ўбачыла, што Ігару блага. Патэлефанавала Вользе, тая прыляцела на таксоўцы... Лекары з "хуткай дапамогі" зрабілі Ігару пару ўколаў, потым распачалі электрастымуляцыю сэрца. На той момант, калі прыехаў бацька, Ігара ўжо не было ў жывых.

Па ягонай сьмерці Вольга разгарнула шалёную актыўнасьць. Калісьці яна скончыла Інстытут культуры і працавала рэдактаркай на тэлебачаньні. У выніку чарговае рэарганізацыі яна трапіла пад скарачэньне штатаў і цяперака нідзе не працуе. Ёй удалося адсудзіць Ігараву кватэру, у якой яна не была прапісаная і ніколі не жыла. Апошнім часам яна прадае Ігараў раяль. Гэтая жанчына здолела пасварыцца з усімі калегамі Паліводы — Фінбергам, Лучанком, Раінчыкам. У яе ніколі не было сяброўскіх сувязей у тым коле, дзе абарачаўся Ігар. Яна была там чужая і засталася такая нягледзячы на ўсе свае намаганьні прабіцца ў гэтае кола.

Менавіта таму вечарына не магла быць удалай.

Прыканцы канфэрансьерка зьбянтэжыла публіку навіной, што ў найбліжэйшы час будуць надрукаваныя Ігаравы дзёньнікі, якія "расплюшчаць нам вочы на музычнае жыцьцё 1980-х — пачатку 1990-х гадоў". Я пагаварыла з бацькам Ігара Паліводы: ён гэтых нататак ніколі ня бачыў. Праверыць іхную аўтэнтычнасьць, лічыць ён, немагчыма, бо Ігар, пачынаючы з школьных гадоў, друкаваў свае тэксты на машынцы...

Творы ж Паліводы доўга яшчэ застануцца ў занядбаньні — пакуль вакол пануе стылістыка "Славянскага базару". Сам Палівода і паспрыяў росквіту гэтай псэўдамузыкі. Адна надзея, што расплата за гэты грэх ня будзе доўжыцца бясконца.

## Дыскаграфія

# MORE КАХАНЬНЯ

### Розныя выканаўцы. (р) 2001, BMA group.

Ня буду разважаць пра мэтазгоднасць уключэньня ў гэтае "мора" той ці іншай песьні, проста прабягуся па праграме. Па магчымасьці не пакідаючы сьлядоў.




Адкрываецца музычная "валянцінка" файным нумарам "Крыві" з удзелам групы пэркусістаў і Масуда Талібані. Курдзкая ды беларуская вакальныя партыі тут ніяк ня шкодзяць адна адной. Далей (плюс складальнікам) — песьня ў выкананьні Інны Афанасьевай. Рызыкоўны ход, бо ўзровень "папсовай" сьпявачкі сьведчыць, колькі яшчэ мусяць працаваць над сабой некаторыя рокеры. Напрыклад, гурт *"Exist"*, які выступае зь невыразным, такое ўражаньне, папросту недаробленым опусам. Ірына Курапаткіна прыгадвае адзін з самых удалых нумароў "Народнага альбому", пасьля чаго *"N.R.M."* сьпяваюць песеньку чамусьці пра Дзеда Мароза, а не пра сьвятога Валянціна. Яцэк Тэлус ды Жак дэ Лус выдаюць цікавы нумар, у якім прыцягвае ўвагу стыльная партыя фартэпіяна. Песьня "Вадаспад" беларускага гурту "Белы сон" з Польшчы сьведчыць пра прафэсійнасьць каманды: мінімум выяўленчых сродкаў і максімум эфэкту. Так што наступная песьня закаханых пад паэтычным назовам "Е!" ў выкананьні "Безь Білета" на ейным фоне выглядае як чарнавы варыянт шлягера, што наўрад ці калі патрапіць у гітпарады.

Бок "Бэ" адкрываюць дзяўчаты-"лонгплэеўкі". Калі не павыходзяць замуж, мо й дасягнуць з часам годнага выканальніцкага ўзроўню. Ён і зараз неблагі, але ўсё ж аматарскі. Група "Харлі" страсае шоў-бізнэс песьняй "Іван ды Маня", з тэкстам надзвычайнае паэтычнае глыбіні. Аўтар музыкі Раман Арлоў выглядае на фоне вершаў калі не Бэтховэнам, дык "магучай кучкай" — дакладна. "Палац" не пашкадаваў для зборніка ўласнае "Канюшні", якая ацалела нават пасьля таго, як па ёй прайшліся чулыя рукі дыджэя Ray Хвісевіча. Нават конь жывы застаўся. "Крама" а шостай гадзіне прэзэнтуе ня лепшую са сваіх песень, пасьля чаго надыходзіць "Цудоўны вечар" ад "Новага Неба" — прыгожы, прыемны, у вытанчаных гукавых убраньнях, які дазваляе спадзявацца, што Кася Камоцкая нарэшце верне мне адзін кампакт-дыск і набудзе другое творчае дыханьне. Па гэтым настае чарга айчыннага панку. *"Мальчики"* — даволі тыповая для "Нейра Дзюбеля" песьня. А потым "Цмокі" сьпяваюць, здаецца, пра цешчу. Бо каго ж яшчэ можна ласкава называць "Бензапіла"? Такі вось ён, наш панк — рахманы, млявы і талерантны. Гэтая тупаватая песьня з дэбютнага альбому гурту, які, спадзяюся, сёньня піша нешта больш вартае слова "музыка". І завяршаецца альбом яшчэ адным нумарам "Крыві" — рэміксам "Агу, вясна!", які, трэба думаць, сымбалізуе хуткае пацяпленьне і надыход шчасьлівага заўтра.

Падчас прэзэнтацыі касэту можна было набыць зь бясплатным прэзэрватывам. Зрэшты, калі б выдаўцы закаталі яе не ў цэлафан, а ў гумку, было б куды больш канцэптуальна і кантрацэпцыйна.

Аглаблёвая заўвага: цалкам слушна ўсе песьні змантаваныя нон-стоп. З гэтае прычыны праграма гучыць карацей, чым магла б.

**Затогены СЛУХАЧ**

# Сабачыя гісторыі

Віктар Шніп

Адзін сабака прыехаў у Барысаў. Зайшоў папіць кавы ў забягайлаўку. А там Граждан, пераапрануты ў міліцыянта, п'е гарбату. Убачыўшы прыеджага, Граждан дастаў гукаўзмацняльнік і сказаў: "Я ў дзяцінстве хварэў на рахіт, але я ведаю, што Васіль Быкаў сёньня служыць у паліцыі, і вы там, у сваім Менску, яму дапамагаеце..."

Адзін сабака невядома адкуль прыехаў да Шніпа. А Шніп пераапрануўся Гражданом і пайшоў начаваць на вакзал.

Адзін сабака прыехаў на зьезд пісьменьнікаў. Зайшоў у залю пасяджэньня. А там Граждан стаіць за трыбунай і расказвае пра Му-Му і Герасіма, якія загінулі ў часы калектывізацыі.

Адзін сабака прыехаў у Варшаву. Ходзіць сярод палякаў і дзівіцца: "Як усё чыста...". І раптам чуе голас Граждана: "Пся крэў! Гаўно за сабой змываць трэба!"

Адзін сабака прыехаў на курорты. І чуе: "Шаноўныя Грažданы і Гражданкі, каму трэба зрабіць байстручка, заходзьце ў палату нумар шэсьць. Прыём вядзе доктар Айбаліт з групай дрэсіраваных шымпанзэ".

Адзін сабака прыехаў з камандзіроўкі. Звоніць у дзьверы. А жонка не адмыкае, а кажа: "Я цяпер жыву з Гражданам, а ты едзь туды, адкуль прыехаў. У нас бульбы на траіх ня хопіць..."



Адзін сабака пераапрануўся ў Дон Кі Хота, сеў на каня і паехаў шукаць сваю Дуль Сі Нею. Убачыў гэта Граждан, пакланіўся пераапранутаму сабаку і сказаў: "Міласьцівы гасудар, у вас вусы адклеіліся, і ў каня хвост адваліўся. Вазьміце мяне, дастапачцімы, сваім падмятайлам. Я буду вам казкі нанач разказваць і зь дзяўчатамі спаць..."

Адзін сабака трапіў у жывот рыбы-кіта. Хацеў паспаць, як пачуў голас Граждана: "Ад мяне ты нікуды ня дзенешся. Трэба будзе, улюбішся і жэнішся!"

## АД ГРАЖДАНОЎ

Сабака набыў квіток на канцэрт. Прыйшоў, а там сьпявае *"Гражданская оборона"*.

Адзін сабака любіў чытаць хоку, а Граждан не разумеў і лаяўся: "Ды ідзі ты са сваім Купалам!.."

Сабака харчаваўся ў "Бульбяной", а Граждан лічыў гэта непатрыятычным і піў гарбату ў "МакДональдзе".

Адзін сабака навучыўся хадзіць на задніх лапах. Убачыў гэта Граждан і закрычаў: "Я вас усіх на калені пастаўлю!"

Адзін сабака прыйшоў на мітынг, а Граждан падбег і пытаецца: "Вы ад якой партыі?"

Сабака атрымаў ліст з-за мяжы, Граждан пакрыўдзіўся і згрыз сабе локці.

Адзін сабака апрануў смокінг. Убачыў Граждан і зьдзівіўся: "Ну, выліты Каруза!"

Адзін сабака вельмі кахаў жанчын. Заўважыў гэта Граждан і кажа: "Альбо партыя, альбо бабы".

Адзін сабака быў у Парыжы, а Граждан служыў на савецка-мангольскай мяжы.

**Арцём Арашонак, Віцебск**







## Прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншую доктарку Канаплю** зь Дзіцячага анкалягічнага цэнтру ў Бараўлянах з Днём народзінаў. Пацыент

**Ірачка!!!** Віншую цябе з 18-годзьдзем! Ты ўжо стала вялікай. Шчасьця і каханьня. Галінка

**Віншую Барадзіну Ірынку**, бо яна ў мяне ёсьць. Павал Хадзінскі

**Ірынка Барадзіна!** Я цябе кахаю. Усім сэрцам. Назаўсёды. Павал Хадзінскі

**Андрусю Дзенісевіч!** Даруй шчэ раз за маю дурную галаву! Віншую цябе з прызначэньнем. Я пра цябе памятаю й жадаю сустрэцца. Чакай ліставаньняў. Алена, што з Бабруйску

**Вітаўце Пісарык!** Даруй, што не падаю голасу. Не хапае часу на фізіялягічныя патрэбы. А я пра цябе ўсё роўна памятаю й люблю цябе. Маленькая вар'ятка

**Віншую аднаклясьнікаў** з хуткім заканчэньнем вучобнае маркоты. Антось Фізык-ліцэіст

**Сябры** зь віцебскага Маладога Фронту віншуюць Віктуся Шляхціна з Днём народзінаў!

**Малады Фронт** Менску віншуе віцебскага лідэра Віктара Шляхціна з Днём народзінаў! Гіп-Гіп!

**Люблю маму** і Беларусь! Сын-патрыёт

**Vit**, дзякуй за вітаньні! Чакаю сустрэчы! Я ведала, што гэта — блеф! ВЯРТАЙСЯ!

**Прэсавы сакратар** бабруйскай гарадзкой арганізацыі МФ выказвае вялікую падзяку ўсім рэдакцыям, што аказалі дапамогу ў правядзеньні акцыі "Чытай нармалёвае!". Бяз вас — нікуды. Дзякуй

**Мой любы калектыў** "Рабочага Бабруйску"! Вітаю цябе з тым, што мы ўсе працуем разам. Пераможам, перародзімся, будзем жыць. Алёна

**Усе, хто навучаўся** на ІАЦ НДА з 24.03 да 29.03 і з 27.04 да 2.05! Ведайце, што наша тусоўка была проста супэр. Я вас люблю й сумую па вас. Алёна, што з Бабруйску

### ідэі

**3 траўня** 1791 г. ВКЛ згубіла нават фармальную аўтаномію ў межах Рэчы Паспалітай. Для шанавальнікаў ВКЛ 3 траўня — ня сьвята!

**Вядома ж, Домаш!** Народ

**No state** shall deprive any person of life, liberty or property! Jose

**Каб зьвёны сабраць** у ланцуг, трэба, каб кожнае мела разрыў для злучэньня зь іншым. Алесь Сьпіцын

**Не — АЭС** на нашай зямлі! Памятай Чарнобыль! Алесь

**Адраджэньне** — гэта мы! Белая Русь — псэўдаадраджэньне. А/с 124, 246012, г.Гомель

**Мілы мой квадрацiку,** Мне цябе так не стае. Мне зараз так паскудна. Не забывайся на мяне. Лістуй, тэлефануй. АА

**Паўле**, жадаю, каб твае валасы нясьпынна даўжэлі! Антось Валасаты

**Зянон Пазьняк** — шчыры беларус, прадказальны, выхаваны, інтэлігентны, адукаваны. Толькі ён выведзе нас у цывілізаваны сьвет. Вольга

**Беларусы**, калі Прэзыдэнтам абярэце Зянона Пазьняка — будзеце жыць і мець матэрыяльны дабрабыт, як немцы ці амэрыканцы. Алесь

**Бязьлікі інтэгратар** Домаш — горшы за вар'ята Лукашэнку. Шчыры Беларус

**Беларусы!** Надыходзіць лёсавызначальны час. Гуртуйцеся вакол нашага лідэра — Зянона Пазьняка! А.П.

**Шаноўныя беларусы!** Ці не падаецца вам, што гэтыя "сьвядомыя", што "наверсе", з-за грошай аддадуць нас і Беларусь калгасьніку? Усе, хто можа дапамагчы Беларусі, узьнімайцеся. Нас чакае Беларусь. Дапаможам ёй. Маленькая вар'ятка

**Гэй, спадары старшыні!** Ці не падаецца Вам усім, што з-за таго, што вы ня можаце падзяліць грошы, у Беларусі ва ўладзе застанецца калгасьнік? Падумайце пра народ, а не пра асабістую выгоду. Алёна з Бабруйску

**Мне здаецца**, усё будзе добра. Толькі трэба змагацца. Няўжо зоркі лічаць інакш? Тэоляг Астролягу

**Некаторыя бабруйчане!** Кідайце ўбок плёткі, догмы. Не рабіце нейкіх высноваў, ня маючы поўнага пакунку інфармацыі. У сьвеце ёсьць шчырасьць і дабрыня. А прастытуцтва ці нешта яшчэ займае пазыцыі пасьля папярэдніх. Маленькая вар'ятка

**Ваша моц** — грошы, наша — галовы й рукі. Вашы ідэі — незразумелыя, нашы ж — народныя, блізкія беларускаму чалавеку. Бэпэсаўцы

**Мары з Лунінца!** Косьціку было вельмі добра. Хто вам патрэбны для прышпілу? Шпіён

**Мары з Лунінца**: "Этат Дзень Пабеды порахам прапах..." ПНДЗСХБ



### кантакты

**Запрашаем летам** адпачыць у археалягічным летніку. Заходняя Дзьвіна, 14 сьвятаў, 2 фэстывалі. Т.: 215-84-09 (Сьвятлана)

**Сп.Саган!** Калі ласка, адгукніцеся! Згубіў Вашыя каардынаты. Віталь Станішэўскі

**Міхасю Л.** Падайце голас, а то падумаю, што не патрэбная Вам. Радасная

**Антосю Ідэоляг** і Кірыла Менскі! Хопіць пужацца гапароў, якія бадзяюцца па Менску. Жыве Беларусь! The K-ševič

**Андрусю Асмалоўскі!** Праз NET я табе ўжо аказвала падтрымку, зараз — праз "НН". Трымайся, Андрусю! У цябе ўсё выйдзе. Пераможам. Алёна А.

**Беларусь для Беларусаў!** Бэпэсаўцы сапраўдныя. Пэйдж.: 289-12-12, аб.4430

**Калі жадаеш** перамагчы — шукай сяброў ідэйных, а не прадажных. Бэпэсаўцы. Т.: 289-12-12, аб.4430; bps@tut.by

**Бабруйская прэсавая служба МФ** распачала актыўную дзейнасьць. Усе ахвотныя атрымліваць нашу інфармацыю дасылайце замовы на адрас: bobruisk-pressa@tut.by альбо alonka2002@yahoo.com

**Ідэя! Нацыя! Дзяржава!** БПС. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430. E-mail: BPS@tut.by

**Калі ты** сапраўдны нацыяналіст, дык мусіш быць у БПС. Пэйдж.: 289-12-12, аб.4430

### кнігі, музыка, відэа

**Новы фільм Юр'я Хашчавацкага** "Багі сярпа і молата"! Аўтар раскрывае сувязі між культам РПЦ і савецкім таталітарным культам. (Па-расейску). Шукайце на кропках і выставе ТБМ

**Альбомы "Я нарадзіўся тут"**, "Стары Ольса" шукайце на касэтах і кампактах у працоўныя дні на выставе ТБМ (Румянцава, 13) з 11.30 да 19.00, у нядзелю на кірмашы ДК Трактарнага заводу з 7.00 да 14.00

**Прапаную кнігі** па беларускай гісторыі, мастацтве, сучаснай паэзіі. Палац культуры Трактарнага заводу, штонядзелю з 10.00 да 14.00

**Калі вы набывалі** касэту "На чорных лядах" бяз вокладкі з кадрамі фільму, зьвяртайцеся на адрас: 220107, Менск, а/с 150 (Пазначце, дзе вы набылі касэту)

**Замовы на кнігу** С.Адамовіча "Турэмны дзёньнік". Т.: 277-16-49

**Просім дапамагчы** ў пошуку старых беларускіх нацыяналістычных выданьняў. Загадзя дзякуем. Т.: 289-12-12, аб.4430; bps@tut.by

**Сябры!** Прыму ў якасьці падарунка ці набуду за сымбалічны кошт беларускую Біблію. Т.: 207-45-84

**Куплю асобныя тамы** або цалкам Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т.: 213-70-85

**Буду вельмі ўдзячны** за дасланыя песьні з акордамі: NRM "Тры чарапахі", Данчык "Пагоня" ды інш. yazvinski@tut.by

**Куплю** т.4 або т.1-6 Беларускай энцыкляпэдыі ў 18 тамах. Т.: 262-67-02

**Наш прэзыдэнт Сініцын?** Не! Наш паэт Сьпіцын? Так! Шукайце на ТБМ! Massimo

**Беларускамоўныя відэафільмы** ў Гомлі штонядзелю ў Піянэрскім сквэры (ля цырку) альбо праз т.: 45-11-51



**"Абуджаная сталіца"** — відэафільм пра рыцарскі фэст "Навагрудак-2000". Т. у Гомлі: 45-11-51 (штодня)

**Хутка ў Гомлі** зьявяцца відэафільмы "Матрыца", "Пан Тадэвуш". Заяўкі праз т.: 45-11-51 (штодня)

**Відэафільм "Ісус"** (паводле Эвангельля ад Лукі) можна набыць у Гомлі. Т.: 45-11-51 (штодня)

**Набуду**: Уладзімер Караткевіч і яго творчасьць у эўрапейскім аспэкце; кнігу пра Машэравых, выдадзеную ў Горадні. Т. (Гомель): 45-51-12

**Куплю кнігі** з сэрыі "Беларускі кнігазбор": Ян Чачот, Вацлаў Ластоўскі, Максім Багдановіч. Т.: 283-27-34

### мангал

**Мангал** зь нержавеючай сталі, кампактны. Т.: (017) 228-45-88

### матацыкл

**Матацыкл** ды мапэд-скутэр на замову зь Японіі. Т.: 271-10-36

### праца

**Ангельская, француская мовы.** Пераклады, кантрольныя. Хутка, танна. Т.: 241-03-02. Каця

**Арабская** і ангельская мовы: раблю пераклады, магчымыя індывідуальныя заняткі. Т.: 258-31-53

**Дапамагу пачаць** сваю працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### пыласос

**Пыласос "Цыклён-М"**, ужываны, у добрым стане, прадам усяго за 10 даляраў. Т.: 216-51-80

### садок

**Беларускі** дзіцячы садок у Магілёве. Т.: 25-84-00

### сустрэча

**1 чэрвеня** а 19-й у памяшканьні тэатру «Дзе–я?» (па адрасе: вул.Чайкінай, 16) адбудзецца традыцыйная сустрэча з Алесем Камоцкім, якая сёлета мае назву «Мітусьня каляровых дзён». Прыходзьце, калі ласка

## КОШТЫ
### на платныя прыватныя абвесткі:



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— афармленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.
Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.
**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## Паштовая скрынка



**Юр'ю С. зь Менску.** Вашага водгуку зьмясьціць ня можам, бо ён быў бы нецікавы нашым чытачам. Перадамо яго сп.Тр-ву.

**Генадзю Л. зь Менску.** Усё слушна.

**Сержуку П. з Барысава.** "Руская аўтаномія" супярэчыць правілам праекту "Беларусь праз 100 гадоў": гэта мусібыць невялікі тэкст пра Беларусь як цэлае або пра нейкі адзін з аспэктаў жыцьця за стагодзьдзе. А ў Вас — буйное апавяданьне. Дый не пісьменьнік Вы.

**Васілю Д.-М. зь Менску.** Фільм ня новы, а Вы разьбіраеце яго як навінку. Паколькі стужка даўняя, і людзі пасьпелі пабачыць яе ўжо ня раз, дык варта было б зьвярнуць увагу на менш відавочныя рэчы, напрыклад, параўнаньне перакладаў (Вы гэта зачапілі аднэй фразай), працу перакладчыкаў і, як Вы пішаце, "Багушэвіча нашага віду", сп.Станішэўскага, паходжаньне братоў Вачоўскі, беларускі Галівуд як такі.

**Міколу Б. з Дубровы.** Дзеяслоў "пабіць" быў ужыты не ў значэньні "набіць", а ў значэньні "перамагчы, перайграць". Слова "бацька" стаяла ў родным склоне, бо паясьняла дзеяслоў з адмоўем.




**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 4613.
Нумар падпісаны ў друк 20.5.2001.
Замова № 2780.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а




## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________
Адрас, тэлефон ______________________________